## ЗАПРАШЭННЕ Ў СВЕТ ПАЭЗІІ

У гэты свет — у свет паэзіі Максіма Багдановіча — уваходзіш наперш, як у зачараванае царства. «У зачараваным царстве» — так бо і назваў М. Багдановіч цыкл вершаў, якім адкрываўся першы і адзіны прыжыццёвы зборнік паэта «Вянок». І гэтае царства населена ў яго не толькі міфалагічнымі вобразамі лесуна, змяінага цара, русалак. Ім было ўсё жыццё ўвогуле, якое ён вітаў, якім захапляўся і ў якім смуткаваў, глыбока перажываючы за сацыяльную неўладкаванасць чалавека на зямлі, за сотні прычын, што прымушаюць яго пакутаваць. І ў гэтым жа зачараваным царстве летуцеў паэт аб лепшай долі чалавека, аб дасягненні ім унутранай духоўнай паўнаты, гарманічных адносін з прыродай, з грамадствам.

Чароўнасць, цудоўнасць жыцця наогул сцвярджаў вершамі цыкла «У зачараваным царстве» М. Багдановіч. Сцвярджаў ён і чароўнасць паэзіі як творчасці, як плёну натхнення, узлёту чалавечай душы, трыумфу адкрыццяў, пазнання — асабліва вершамі пра лесуна, змяінага цара, якімі адкрываў хараство паэтычнага светаўспрымання нашых далёкіх продкаў. Але зачараванае царства даўняй паэзіі, прыроды, усяго існага на зямлі было для М. Багдановіча яшчэ і такім зачараваным абсягам, які трэба адчараваць, адваражваць. Дзейсны, валявы, накіраваны на пераўтварэнне свету, лёсу чалавека, паэзіі пачатак, такім чынам, абазначаўся выразна ўжо ў самых ранніх вершах М. Багдановіча, якія былі сабраны ў адзіную нізку якраз у першым раздзеле «Вянка». Чары, як цёмная сіла, як закляццё, (ды і пракляцце) навісаюць тут у вершах Багдановіча

над прыродай, над бацькам Нёманам, як увасабленнем роднага паднявольнага краю, над аратым у гэтым краі, які не сабе пажынае плён рук сваіх. Вершы «Прывет табе, жыццё на волі!..», «Зімой», «Здароў, марозны, звонкі вечар», «Пад-над белым пухам вішняў» — гэта ад радаснага жыццеўспрымання, ад захаплення жыццём, як крыніцай усяго прыгожага. І поруч вершы «Досі ўжо працы», «Перад паводкай» — абодва з заклінаннямі, у прыватнасці, звернутымі і да Нёмана: «Душу выпрастуй маю!» — выпрастуй пакутны лёс чалавека на зямлі, лёс роднай краіны!..

Зачараванае царства ў М. Багдановіча — яшчэ і царства кахання. Нездарма ж і раманс «Зорка Венера ўзышла над зямлёю» ўключан быў паэтам таксама ў першы раздзел «Вянка»! І як ад вершаў, у якіх паэт імкнуўся адчараваць ад нягод, напасцяў родны край, чалавека-працаўніка, вектар эвалюцыі напрамкі вёў у раздзел «Вянка» «Думы» — да верша «Краю мой родны! Як выкляты богам...», так ад поўнага светлых згадак раманса пра зорку Венеру праляглі выразна бачныя нам радыяльныя лініі да вершаў «Маладыя гады», «Набягае яно...», да радкоў «Не злічыць у небе ясных зорак, не злічыць у сэрцы светлых дум...»

Але не адно святло ўладарыць у паэтычным свеце М. Багдановіча. Яно ў яго — заўсёды пераможца. На яго — усе надзеі:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Колькі ў хмарках залётных агня...

З гэтымі словамі Багдановіч, па сутнасці, развітваўся са сваім маладым дваццаціпяцігадовым жыццём, якое з васемнаццаці гадоў падточваў туберкулёз,—

з жыццём, якое давала так мала патолі для яго душы. Ён пачаў пісаць у шаснаццаць год. Ішоў тады 1907. За ім наступілі гады рэакцыі — чорнай, шалёнай. Як імгненне — прасвятленне, дні новага рэвалюцыйнага ўздыму пасля Ленскіх падзей 1912 года. І зноў змрочная хмара — навала першай імперыялістычнай вайны. М. Багдановіч памёр 25 мая 1917 года, толькі некалькі месяцаў не дажыўшы да перамогі Кастрычніка, калі яго Беларусь сапраўды дачакалася «залацістага, яснага дня». Сам жа паэт, імкнучыся насустрач яму, як паміж Сцылай і Харыбдай, плыў паміж сіламі святла і цемры, дабра і зла.

Свет паэзіі М. Багдановіча сваімі найасноўнейшымі вытокамі крынічыў з вуснай народнай творчасці. І ў развіцці матываў барацьбы цёмных і светлых сіл М. Багдановіч ішоў рэчышчам народнай традыцыі. Яно дало ў выніку беларускай паэзіі пачатку XX ст. непаўторнае мастацкае вырашэнне многіх тэм і вобразаў, на пашырэнне якіх М. Багдановіч як мастак быў мэтанакіраваны ў цэлым.

У беларускай паэзіі дасюль мала знойдзеш паэтаў, каб іх творчасць так, як у М. Багдановіча, была напоўнена вобразамі, што сталі сімваламі роднага краю, што склалі такі арыгінальны іх суспол, з якім асацыіруецца сам воблік і лёс паэта і ў які ўваходзіш, як у запаведнік. Кожны з вобразаў існуе тут самацэнна сам па сабе, і кожны — у замкнутай мастацкай сістэме, на «кругах сваіх», у цэнтры якіх — асоба паэта з яго пошукамі, ідэйна-мастацкім ростам, узвышэннем.

Некаторыя з сучаснікаў М. Багдановіча, не разумеючы яго першых вершаў, зняважліва называлі паэта Лесуном. Ім і няўцям было, што не знявагі заслугоўвала тое, што асацыіравалася з чымсьці спрадвечным у народнай памяці, увасабляючы адзіноцтва, адчужанасць. Адзінокі, як лясун, нібы сам ад-

чужаны, пачынаўся ў далёкім ад Беларусі Ніжнім Ноўгарадзе беларускі паэт Максім Багдановіч. Пачынаўся як пясняр беларускіх лясоў, пушчаў; падымаўся, як пасля зімовай спячкі, гаспадар лесу, гучаў, як даўно не гайсаўшае па ім рэха. Сімвал ляснога краю, ажыўшая песня, краса-вымысел пушчанскага люду — вось што такое быў лясун у маладога М. Багдановіча.

Але ён, лясун, як у прыцемках: «Сумны, маркотны, пачынае няголасна граць». За яго постаццю мы яшчэ паэта ў твар не бачым. Ён усё-такі вельмі кволы, расслаблены. І таму з ім расставаўся паэт без жалю, хоць жалем яго сэрца поўнілася.

Жалем вось гэтым: «Я, бальны, бесскрыдлаты паэт...»

Бальны?.. Так. Але — ці бесскрыдлаты?..

Птушкамі Янкі Купалы былі белыя сокалы: «Падымайся з нізін, сакаліна сям'я!» — клікаў ён маладыя перадавыя сілы дарэвалюцыйнай Беларусі. У вобразе саколіча ўвасобіў сёння Рыгор Барадулін — і з поўнай асновай на гэта — самога Максіма Багдановіча. Але напачатку птушкай жыцця Багдановіча была іншая — шэрая зязюля. ...«Скажаш, што я жыці буду, але лепш не гавары. Бо не тое сведчыць маё сэрца, грудзі хворыя мае»,— звяртаўся да яе малады паэт, да птушкі-вяшчункі.

Сёння аднак не так поруч з гэтай птушкай-прарочніцай устае перад намі постаць М. Багдановіча. Ад сцверджання дабра як чыста маральнай каштоўнасці паэт эвалюцыяніраваў да заклікаў змагацца за дабро сацыяльнае, да такой самаахвярнай барацьбы, якую вядзе з бушуючай стыхіяй у адным з яго апошніх твораў Страцім-лебедзь-птах. Добрая народна-песенная зязюля наканоўвала паэту доўгіх год жыцця, а ён, рынаючыся «ў бой з жыццём», як свой ідэал выбіраў непакорнага Страцім-лебедзя, што сам, памі-

раючы, іншым штушкам нясе шчасце-жыццё. У блізкім папярэдні дзвюх рэвалюцый 1917 года прыйшоў да паэта гэты вобраз — такі грамадска-значны і такі, як засведчыў Змітрок Бядуля, асабісты. Выражэннем паэтавай мары аб гераічным дзеянні дзеля людзей, дзеля Радзімы ён быў. І глыбокім асабістым болем, выкліканым тым, што ён, юны, хворы чалавек, не пакідае пасля сябе нашчадкаў Максімавых...

Любімым часам сутак Багдановіча была не раніца, як у Янкі Купалы, а — адвячорак. Перачытайце вершы «Вечар на захадзе ў попеле тушыць», «Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог», «Добрай ночы, зара-зараніца!..», «Здароў, марозны, звонкі вечар...», «Вечар»,— і вы гэта адчуеце. Адвячорак — не як схілак дня, пара згасання сонца, хоць і такія матывы ёсць у паэта, невылечная хвароба якога доўгага сонечнага дня яму не абяцала. Адвячорак, які вабіў паэта сцішанасцю гукаў, ігрою фарбаў, тым, калі хочацца, што ён стушоўваў зямныя, сацыяльныя кантрасты, што так кідаліся ў вочы ў дзённым святле і так балелі сэрцу песняра.

Вось яны, самыя прыгожыя і самыя «балючыя» вобразы Багдановічавай песні,— яркія, убачаныя менавіта ў дзённым святле ва ўсім сваім драматызме, адгароджаныя ад сонца, ад шчаслівай долі слуцкія ткачыхі і мадонны.

«Ад родных ніў, ад роднай хаты» ў няволю ўзяты слуцкія ткачыхі ткаць на ўзор персідскі паясы, што сваёй красой слынулі ў няблізкім свеце. «А за акном смяецца поле, сінеюць міла васількі». Для каго смяецца поле, для каго сінеюць міла васількі? Не для паланянак жа! Яны, нявольніцы, пазіраюць у вокны, і ў яркім сонцы, у смеху палёў, у азоранасці іх сінімі агеньчыкамі васілёчкаў чарнее «край зубчаты бору»! Светлыя — цёмныя сілы, на сутыкненні іх пабудаваны і шэдэўр лірыкі М. Багдановіча «Слуцкія

ткачыхі»! Чорныя сілы аднак не зламалі духу паланянак, не перамаглі іх. Пераможцамі над абставінамі выходзяць паланянкі, што ткуць «цвяток радзімы васілька» замест персідскага ўзору. Родны васілёк стаў для іх памяццю сэрца, сімвалам радзімы, волі, красы, красавання, стаў сімвалам для іх і для паэта, і цяпер ужо для ўсіх нас, беларусаў, для ўсіх людзей, што аднойчы Беларусь наведалі, што аднойчы прачыталі ці праспявалі «Слуцкія ткачыхі».

Максім Багдановіч-лірык — адзін з самых інтымнейшых беларускіх лірыкаў. Разам з Янкам Купалам ён стаў заснавальнікам нацыянальнай любоўнай, пейзажнай, філасофскай лірыкі. Каханне ў М. Багдановіча выклікае подзіў і захапленне жанчынай, гучыць як гімн мацярынству, красе і дабраце, якія ён увасобіў у творах аб беларускіх мадоннах, у цыкле «Каханне і смерць». Каханне вышэй смерці: яно яе перамагае, жыццё — вечнае, і слава той маці, што ідзе на смерць, на мукі, абы «жыццё дзіцёнку даць». Перад абліччам мадонны-маці паэт схіляе сваё чало, як перад увасабленнем вышэйшых маральных каштоўнасцей, судакрананне з якімі робіць чалавека прыгажэйшым і дабрэйшым душой.

Жыві і цэльнасці шукай,
Аб шырацe духоўнай дбай,—

гэта быў адзін з асноўных запаветаў Багдановіча-філосафа, і духоўную шырыню чалавека паэт звязваў, перад усім, з узнясеннем чалавека да вышыні красы і дабра, спалучаных ў вобразе мадонны.

Але сарцавіннымі ў зборніку «Вянок» былі ўсё ж раздзелы «Думы» і «Вольныя думы» — роздум паэта аб лёсе Бацькаўшчыны, яе сыноў і дачок. Тэма Бацькаўшчыны, лёсу народа бралася паэтам у шырокіх гістарычных каардынатах — ад летапісцаў, ад Скарыны і сярэдневяковых прымхлівых знахароў да Беларусі

Янкі Купалы і Якуба Коласа. Не толькі цяжкую нядолю беларускай вёскі, селяніна-працаўніка імкнуўся асэнсаваць і адбіць паэт, але і гісторыю гарадоў і мястэчак Беларусі. І так поруч з нізкай «Старая Беларусь» станавіўся цыкл «Места», у якім Багдановіч адным з першых у беларускай паэзіі развіваў урбаністычную тэму, паказаў як сярэдневяковы, так і ахоплены сацыяльнымі канфліктамі капіталістычны горад.

А мы яшчэ не ўспаміналі вершаў М. Багдановіча так званага беларускага складу, што меліся скласці нізку «На ціхім Дунаі», робячы імя паэта звязаным і з гэтым па-новаму ўзнятым ім вобразам беларускай народнай лірыкі; не гаварылі пра пераклады М. Багдановіча на беларускую мову вершаў Гарацыя, Авідзія, Шылера, Верлена, Пушкіна, Верхарна, Святагора і іншых, а гэта таксама свет яго шматграннай паэзіі; не закраналі паэтавых наследаванняў фальклорным і класічным узорам паэзіі рускай, украінскай, скандынаўскай, іспанскай, персідскай, японскай. Ды ўсе гэтыя творы чытач, вядома ж, ведае,— нам жа тут хочацца ў заключэнне вылучыць яшчэ тры вобразы, без якіх свет паэзіі Багдановіча, як храм без алтара, як неба без зор, як дарога без чалавека. Два з гэтых вобразаў — Маці-краіны і коннікаў на белых канях, што лятуць вываёўваць ёй лепшае будучае. Трэці — вобраз знічкі.

Вершаў пра Маці-краіну шмат у М. Багдановіча. Ён, які ў пяць год страціў маці, які трымцеў у подзіве перад красой і дабратой мадоннаў, выходзячы насустрач будучыні з лясной Беларусі, узняў з долу яе жытніх палёў не толькі сінявокі васілёк, ён узняў і меч — у абарону Маці-краіны, святла, красы, ратаяў і каменяроў, гаротніц-маці і сейбітаў. Узняў напярэдадні вострых сацыяльных бітваў, якіх чакаў, да якіх сябе рыхтаваў, пакідаючы ў беларускай паэзіі пачат-

ку XX ст. той светлы след, які — ён ведаў — «будзе вечна жывы».

Той след не падобны па след метэора, што, прарэзаўшы цемрадзь ночы, заўчасна гіне, хоць і ў гэтым вобразе паэт увасабляў свой кароткі жыццёвы лёс. Ён пакінуў шматмерны, шматфарбны, поліфанічны, праз край населены вобразамі свет паэзіі. І ў свет гэты кожны раз кожны можа ўвайсці, як у краіну вечнае паэзіі.

*Алег ЛОЙКА*

* * *

**Вы, хто любіце натрапіць**
**Між страніц старых, пажоўклых**
**Кнігі, ўжо даўно забытай,**
**Блёклы, высахшы лісток,—**
**Праглядзіце гэты томік:**
**Засушыў я на паперы**
**Краскі, свежыя калісьці,**
**Думак шчырых і чуцця.**

*1912*

## ПРЫЙДЗЕ ВЕСНА

Холадна. Вецер на полі гуляе,
Вые, як звер,
Снег узрывае, нуду наганяе,—
Кепска цяпер!
Але мне сэрца пяе: не нудзіся!
Прыйдзе вясна!
Гукне: «Прачніся, зямля! прабудзіся
З цяжкага сна!»
Сонца прагляне, зазелянее
Траўка ў лугу,
Гукне вясна і, як ветрам, развее
Гора-нуду!

*1908*

## МАЕ ПЕСНІ

*I*

Калі смутак моцна дзьме душу маю,
І шкада мне дзён загубленых сваіх,—
Я паціху песні сумныя пяю,
Усю жуду сваю выкладваю ў іх.
Ціха песня разліваецца, звініць,
Вымаўляе, як я моладасць згубіў,
Як дагэтуль не патрапіў палюбіць,
І саўсім, бадай, праўдзіва шчэ не жыў.

*II*

А як родную згадаю старану,
Як згадаю яе беднасць і нуду,—
Сэрца сціснецца, і я пяяць пачну,—
Мо душу хоць трохі гэтым адвяду.
Грозна песня разліваецца, грыміць,
Долю горкую, мужыцкую кляне,
Бо нявідзімы ланцуг на іх вісіць,
Бо ім цяжка жыць у роднай старане.

*1908*

## НОЧ

Ціха ўсё была на небе, зямлі і на сэрцы...
Ноч цемнатою навокала ўсё пакрывала,
Ясныя зоркі блішчалі, і месяц ўжо выплыў,
Неба, і лес, і палі серабром абліваая.
Ўсё ўжо уснула, і толькі бярозы шапталісь,
Толькі асіны шумелі, і толькі калоссі,
Ў полі шырокім качаясь, зямлю цалавалі.
Ціха ўсё была на небе, зямлі і на сэрцы...

*1908*

## НА ЧУЖЫНЕ

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.
Маркотна між іх я хаджу адзінок,
Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае
Наш родны, забыты ў цяні васілёк.
«Здароў будзь, зямляча!» Чуць бачны ў даліне
Панура, нявесела шэпча ён мне:
«Ўспамянем, мой дружа, ў багатай чужыне
Аб беднай, далёкай сваёй старане».

*1908*

## НАД ВОЗЕРАМ

Сонца ціха скацілася з горкі;
Месяц белы заплаканы свеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.

Ў іх русалкі заблуталі косы,—
Рвуць і блутаюць срэбныя ніці;
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча русалкам:
«Засніце».

*1909*

## ЗІМОЙ

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І вольны лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

*1909*

## КРАЮ МОЙ РОДНЫ! ЯК ВЫКЛЯТЫ БОГАМ...

Краю мой родны! Як выкляты богам —
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліс родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! —
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Усюды панурыя людзі...

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынеслі моцныя спіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —
Сціснецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песня пяе, як удовіна сына
Янку каханне згубіла;
Там, дзе панура схілілась каліна,
Беднага хлопца магіла.

**Ў гутарках-казках аб шчасці, аб згодзе**
**Сэрца навін не пачуе.**
**Сціснула гора дыханне ў народзе,**
**Гора усюды пануе.**

**Хваляй шырокай разлілась, як мора,**
**Родны наш край затапіла...**
**Брацця! Ці зможам грамадскае гора?**
**Брацця! Ці хваце нам сілы?!**

*1909*

## С. Е. ПАЛУЯНУ

С Израилем певцу один закон;
Да не творит себе кумиров он.

*Е. Баратынский*

De quelque mot profond tout
homme est le disciple.*

**Глянь, як зорка у цемні ляціць,**
**Усіх чаруючы светлам сваім,**
**Быццам змей залаты зіхаціць,**
**І стухае у небе глухім.**

**Але ўспомніць яшчэ зорку свет,**
**Бо у сэрцах гарыць яе след.**
**Так свабодна, так ярка пражыць —**
**Лепшай долі няма на зямлі.**

**Усё кругом на мамент асвяціць**
**І пагаснуць у цёмнай імглі.**
**Усё знікае, праходзіць, як дым,**
**Светлы ж след будзе вечна жывым.**

*1909*

---

* Кожны чалавек з'яўляецца паслядоўнікам якой-небудзь вялікай ідэі.

## З ПЕСНЯЎ БЕЛАРУСКАГА МУЖЫКА

*I*

Гнусь, працую, пакуль не парвецца
Мне жыццё, як сагніўшая ніць;
А каб ведаў, што столькі пральецца
Майго поту, не стаў бы і жыць.

Адтаптаў сотні вёрст пехатом я,
Будаваў я дарогі, масты;
Ліўся пот мой, як рэзаў на ком'я
Плугам глебы сухія пласты.

Працаваў над пяском, над дрыгвою
І не мала там выцерпеў мук,
І не прыйдзецца мне пад зямлёю
Гэтых чорных сароміцца рук.

А канаць ужо час: пот і слёзы
Мне жыццё, нібы мышы, грызуць;
Гора гне, як мяцеліца лозы,
Цэлы век не дае мне дыхнуць.

Шчасце ж гляне і ўдаль пранясецца,
І магу я аб ім толькі сніць...
Дык няхай жа, няхай сабе рвецца
Мне жыццё, як сагніўшая ніць.

*II*

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў,—
Яны ж мне каменні давалі;
І тыя каменні між імі і мной
Сцяною вялізнаю ўсталі.

Яна усё вышай і вышай расце
І шмат каго дужа лякае.
Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна?
Каго пад сабой пахавае?

*1909*

## АСЕННЯЙ НОЧЧУ

Чарнеецца сажаю вечар.
Дождж б'ецца аб хвалі ракі,
Гуляе, гудзе над ёй вецер,
Заводзіць, што ў полі ваўкі.

Спакойна мне тут пад вадою:
Залёг я ля млына на дне;
Апруся на кола рукою,—
Млын казку старую пачне.

Кругі завіруюцца жорнаў,
Трасецца хадырна сцяна;
А думы — як колас без зёрнаў,—
Усё мяне цягне да сна.

Беспамятна колы піхаю,
Хілюся да дна галавой —
І ўжо я драмлю, засыпаю
Пад шум непагоды глухой.

*1909*

## ПУГАЧ

Загарэлісь кроўю вочы. Вось нясецца
З цёмнай елкі гук нуды і смеха,
І далёка голас аддаецца —
Пракацілася па лесе рэха.
І, лякаючысь, канца чакаеш ночы.
Ўсё здаецца: ўстаў лясун вялікі,—
Чырванеюць, адбіваюць кроўю вочы,
Не змаўкае смех глухі і дзікі.

*1909*

## ЦЕМЕНЬ

*Ахвярую М. А. Кіц-Най*

Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок.
Над зямлёю — імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць!
Але вось цераз цемень маланка блішчыць,
Асвячае мне вобраз Хрыста... яго крыж...
Ажываеш, здаецца, душою гарыш.
Але толькі чаму ж так малы гэты час?!
Зноў навокала цемнь. Свет зірнуў і пагас.
Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста.
Над зямлёю імгла, у душы пустата.

*1909*

## ПАДВЕЙ

Разгулялася вясёлая мяцель,
Прабудзіўся, ў поле кінуўся Падвей.
Ў галаву яму ударыў снежны хмель,—
І не змог ён буйнай радасці сваей.

Пляша, скача. Снег зрываецца, ляціць.
Веюць ў полі снегавыя рукава,
А Падвей нясецца, кружыцца, гудзіць,
Запявае, удалая галава!

Рвецца белы, рвецца, трэплецца насоў,
Разляцеліс яго кудры-валасы,
З трэскам падаюць галіны ад кустоў,
Енчаць, плачуць на раздоллі галасы.

Доўга, доўга будзе цешыцца Падвей!
Калі ж зваліць хмель ў пуховую пасцель,—
Белы снег яго схавае між палей
Замяцець, уложыць буйная мяцель.

*1909*

* * *

Дождж у полі і холад... Імгла...
Дзесь у вёсцы міргаюць агні.
Там, злякаўшысь, схавалась, лягла
Доля горкая ў чорным цяні.

І пад цёмнымі скрыдламі ночы
Не убачаць цяпер яе вочы.

Толькі вецер асенні, пачны
Ў полі сумна гудзіць і пяе
Аб радзімай старонцы глухой
Ды аб долі няшчаснай яе.

Цісне сэрца мне песня начная...
Хай жа голасна вецер спявае.

Хай пяе ён у роднай зямлі,
Каб у сэрцах нам сорам збудзіць,
Каб змагацца з няпраўдай ішлі,
Ў чыім сэрцы сумленне не спіць.

Долю чорную ноч не схавае,
Калі выльецца песня жывая!

*1909*

* * *

O voi, ch'avete glintelletti sani
Mirate la dottrina, che s'asconde.
Sottil velame degli versi strani.
*Dante. Inf. IX* *.

**Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун**
**Пачынае няголасна граць:**
**Пад рукамі яго, навяваючы сум,**
**Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,**
**Танкаствольныя сосны звіняць.**

**Ці казаць, ад чаго пацямнела рака,**
**Зашамрэлі мацней каласы,**
**І аб чым шэпча ім галасок вецярка,**
**Што зіяе-дрыжыць на лісцёх лазняка:**
**Кроплі слёз ці халоднай расы?**

*1910*

---

* О, вы, разумныя, зірніце самі,
І кожны настаўленне зразумее,
Захаванае пад нязвыклым вершам.
*Дантэ. Пекла. IX*

## ВОЗЕРА

Стаяў калісь тут бор стары,
І жыў лясун у тым бары.
Зрубалі бор — лясун загінуў,
Во след яго ад той пары:
Сваё люстэрка ён пакінуў.

Як у нязнапы свет акно,
Ляжыць, халоднае, яно,
Жыццё сабою адбівае
І ўсё, што згінула даўно,
У цёмнай глыбіні хавае.

*1910*

* * *

Вечар на захадзе ў попеле тушыць
Кучу чырвоных кавалкаў вугля;
Ціха ўсё; вецер лістка не зварушыць,
Не скалыхнуцца ні траўкай паля;
Цёмныя цені даўжэй у лагчыне,
Птушкі прыстаўшай марудней палёт;
Сумна плыве маладзік бледна-сіні
Ў небе вячэрнім, зялёным, як лёд;
Іскрацца зорак сняжынкі маркотна,
Збожжа пакрылася шызай расой...
Кіньма жа думкі аб долі гаротнай,
Хоць бы на момант спачынем душой!

*1910*

* * *

Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог,
Улажылі спаць мяне вы на зямлі.
Не курыцца светлы пыл усцяж дарог,
Ў небе месяца прагляну ўбледны рог,
Ў небе ціха зоркі расцвілі.

Знічка коціцца агністаю слязой,
Прашумела мякка скрыдламі сава;
Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,
Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,
Чую ў цішы, як расце трава.

*1910*

## ЗІМОВАЯ ДАРОГА

Шпарка коні імчацца у полі,
Сумна бомы гудзяць пад дугой,
Запяваюць аб долі і волі,
Навяваюць у сэрцы спакой.

Ўюцца змейкай срабрыстай дарожкі,
Брызгі золата ў небе блішчаць,
І маркотныя месяца рожкі
Праз марозную мглу зіхацяць.

Поле нікне у срэбным тумане,
Снег блішчыць, як халодная сталь,
І лятуць мае лёгкія сані,
Унашуся я ў сінюю даль.

*1910*

## ПЕРАД ПАВОДКАЙ

Праясняецца пагода,
Бо вярнулася вясна.
Усё чакаеш, што прырода
Ўстрапянецца ада сна.

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутным лёд.

Зазвіняць жалобна крыгі,
І бурлівая вада
Снег, размоклы ў час адлігі,
Змые з лугу без сляда.

Дык разлійся ж раздольна
Ў чыстым полі і гаю
І красой паводкі вольнай
Душу выпрастай маю!

*1910*

* * *

De la musique avant toute chose.
*P. Verlaine* *.

**Па-над белым пухам вішняў,**
**Быццам сіні агаnёк,**
**Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі**
**Сінякрылы матылёк.**

**Навакол усё паветра**
**У струнах сонца залатых,—**
**Ён дрыжачымі крыламі**
**Звоніць ледзьве чутна ў іх.**

**І ліецца хваляй песня,—**
**Ціхі, ясны гімн вясне.**
**Ці не сэрца напявае,**
**Напявае яго мне?**

**Ці не вецер гэта звонкі**
**У тонкіх зёлках шапаціць?**
**Або мо сухі, высокі**
**Ля ракі чарот шуміць?**

**Не папяць таго ніколі,**
**Не разведаць, не спазнаць:**

---

* Музыка перш за ўсё. П. Верлен *(франц.)*.

Не даюць мне думаць зыкі,
Што ляцяць, дрыжаць, звіняць.

Песня рвецца і ліецца
На раздольны, вольны свет.
Але хто яе пачуе?
Можа, толькі сам паэт.

*1910*

# ДОСІ ЎЖО ПРАЦЫ

**Гэй, варушыцеся, коні панурыя,
Досі ўжо працы, бо сонца зайшло!
Ярка-чырвоныя, жоўтыя, бурыя
Борозны ў небе яно правяло.
Хутка ўжо зоркі зірнуць сiняватыя,
Месяц пакрые палі палатном...
Досі ўжо! З вамі вярнуся да хаты я
І пазабудуся сном.**

*1910*

## МНЕ СНІЛАСЯ

Усё вышэй і вышэй я на гору ўзбіраўся,
Падымаўся да сонца, што дае нам цяпло:
Але толькі чым болей да яго набліжаўся,
Тым усё халадней мне й маркотней было.

Заскрыпеў снег сыпучы пад маімі нагамі,
І марозам калючым твар пякло ўсё крапчэй.
І, пануры, стамлёны, ўніз пайшоў я снягамі,—
Сонца там хоць і далей, але грэе цяплей!

*1910*

# ПЕСНЯРУ

Ведай, брат малады, што ў грудзях у людзей
Сэрцы цвёрдыя, быццам з камення.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Не збудзіўшы святога сумлення.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім,— ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў.

*1910*

* * *

Бледны, хілы, ўсё ж люблю я
Твой і мудры і кіпучы верш, Анакрэон!
Ён у жылах кроў хвалюе,
Ў ім жыццё струёю плешча, вее хмелем ён.

Верш такі — як дар прыроды,
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы,—
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно.

*1910*

* * *

Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя,
Як всцер валіць поўны колас да раллі,—
Удыхнула моц у грудзі сына мацер Гея,
І вось, цвярды, як дуб, яшчэ, чым перш,
сільнее,
Ён, напружыўшыся, падняўся ўраз з зямлі.

Паломаны жыццём, чакаючы магілы,
Радзімая зямля, прынікнуў я к табе,
І бодрасць ты ўліла ў слабеючыя жылы,
Зварушыла маёй душы драмаўшай сілы,
І месца ў ёй з тых пор няма ўжо больш жальбе.

*1910*

* * *

**Зразаюць галіны таполі адну за адной...
Без скаргі яны на зямлю чарадою лажацца,
Бо смерць іх патрэбна, каб дзерава новай вясной
Магло бы хутчэй развівацца.**

**Таварышы-брацця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганні з нядоляй патраціць апошнія сілы,—
Ці хваце нам духу ў час гэты жыццё ёй аддаць,
Без скаргі палеч у магілы?!**

*1910*

* * *

Рушымся, брацця, хутчэй
Ў бой з жыццём, пакідаючы жах,
Крыкі пужлівых людзей
Не стрымаюць хай бітвы размах...

Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

*1910*

* * *

Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі
Каля агнішча лёг і сціхнуў у паўсне.
Агонь усё слабеў... урэшце знік паволі...
І ўраз зрабілася вясёла неяк мне!..

Хай, шэры попел, ты агнішча ўсё сабою
У пядоўгі час здалеў, як рызаю, пакрыць,—
Я ведаю, што там агонь дрыжыць пад ёю,
Я ведаю, што там чырвоны жар гарыць...

Хай чарада гадзін панурых, нудных, шэрых,
Як попел, на душу мне клалася ўвесь час,
Хаваючы сабой агонь гарачы веры,—
Хай не відаць яго... а ўсё ж ткі ён не згас!

*1910*

## КАГАНЦУ

Змоўк пясняр, затаіў свае песні,
Ён іх болей ужо не пяе.
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесні
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсне,
І струёй лынуць вершы з яе.

Гэтак часам уходзіць у зямлю крыніца,
Дзесь у нетрах таемна бяжыць,
Але мусіць урэшце на волю прабіцца,
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца
І радзімаму краю служыць.

*1910*

## ЗМЯІНЫ ЦАР

Цемень. Сосны. Елкі. Мох. Кара.
Смерць прыйшла ужо ка мне...
Разгарысь, вячэрняя зара,
У туманнай вышыне.

Цёмнай ноччу страшна у жальбе
Паміраць. Шуміць трава,
Глуха дзяцел ў дрэве б'е,
Гучна гукае сава.

А памрэш — прыцісвуць грудзь пласты
Гліны. Ўстану ж на яру,
Падыму галоўку праз кусты,
Гляну ў неба і памру.

Скоціцца карона, пабяжыць
Залатая ў шэры мох.
Чорны кот магілу прыйдзе рыць.
Дрогне вецер на кустох.

Месяц брызне хваляй серабра,
Расой блісне ў нізіне...
Разгарысь, вячэрняя зара,
У туманнай вышыне.

*1910*

## МАЯ ДУША

Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор,
Вартуе вольных птушак крыкі,—
Мая душа, як ястраб дзікі.

Учуўшы іх, страсе вялікі
Свой сон, шыбне ды вышай гор,—
Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор!

*1910*

## НАД МАГІЛАЙ МУЖЫКА

Спі, бядак! Накпілась доля над табою:
Ты рабіў, а ўвесь здабытак твой — труна;
Усё жыццё сваё змагаўся ты з зямлёю,
Але ўрэшце ўсё ж асіліла яна!
Над табой пласт гліны цяжкай наваліла,
Грудзі ўпаўшыя прыціснула пяском...
Дык скажы ты мне, халодная магіла:
Для чаго ж змагаўся цягам ён з жыццём?

*1910*

* * *

**Скрылась кветамі ў полі магіла,**
**Зарасла бур'яном і травой,**
**І ўжо памяць людская забыла,**
**Хто пахованы тут пад зямлёй.**

**І ўжо, пэўна, ніхто не спазнае,**
**Што не просты пясчаны курган,**
**А старая магіла сцяпная**
**Там ляжыць, дзе красуе бур'ян.**

**Ці ж не гэтак схаваў ад вас, людзі,**
**Маёй мовы блеск пекны і жар,**
**Тую тугу, што цісне мне грудзі,**
**Ад каторай марнее пясняр?**

*1910*

# ПЕСНЯ ПРА КНЯЗЯ ІЗЯСЛАВА ПОЛАЦКАГА

*(З «Слова о полку Игореве»)*

Ізяслаў, сын Васількоў,
Даўнымі часамі
Аб літоўскія шаломы
Пазвапіў мячамі;
Адняў славу у свайго
Дзеда, у Ўсяслава,
І улёгся нерухома
На траве крывавай
Пад чырвонымі сваімі
Роднымі шчытамі,
Ўвесь іссечаны, ізбіты
Ворагаў мячамі.
Усхапіў ён тую славу
І прад смерцю кажа:
«Скрыдлы птах тваю дружыну
Прыадзелі, княжа,
І звяры кроў палізалі...»
У баі крывавым
Не было ні Ўсеваладa,
Ані Брачыслава.
Ураніў самотна з цела
Ён душу ўдалую
Цераз пацерку на шыі,
Цераз залатую.

**Засмуцілася вясёласць,**
**Песні замаўкаюць,**
**І жалобна, сумна трубы**
**У Гародні граюць.**

*1910*

* * *

Вось і ноч. Нада мной заліліся слязамі нябёсы,
Смагла цягне расу ўся сухая і пыльная глеба;
Раскрываюцца краскі начныя, як выпадуць росы,
Раскрываецца сэрца маё пад слязінкамі неба.
І не высказаць мне, як у час той яно пацяплела,
Як даверчыва, шчыра гарачыя словы шаптала;
Але сіняе неба, пачуўшы іх, змрочна цямнела,
І сляза пакацілася ў хмарах і ў цемень упала.

*1910*

* * *

**Ціхія мае ўсе песні, цёмныя, як вугаль чорны,**
**Але ўсё ж яны засвецяць, калі я ў агні мучэння**
**Іх разжару, распалю;**
**А як згасне ён,— дык бліснуць, быццам**
**дыяментаў зёрны,**
**Бо абернуцца, застыўшы, ў драгацэнныя камені**
**Ў час, як я лягу ў зямлю.**

*1910*

## РАМАНС

Не знайсці мне спакою ні цёмнаю ноччу, ні днём,
Бо любоў мяне мучыць і паліць пякельным агнём.
Але ведама: каб, апаліўшыся, боль заглушыць,—
Трэба толькі да раны халоднай зямлі прылажыць.
Пэўна, прыйдзецца мне пахавацца ў сырую зямлю,
Каб уцішыць мучэнні і тую забыць, што люблю.

*1910*

* * *

Оглянись — и мир вседневный
Многоцветен и чудесен.

*А. Фет*

**Прывет табе, жыццё на волі!
Над галавой — дубоў павець,
Віднеюць неба, горы, поле
Праз лісцяў сець.**

**Лахмоцці ценяў на палянах,
Схаваўшы золата, ляжаць;
Яго слаі з-пад дзір парваных
Аж зіхацяць.**

**А к ночы свой чырвоны веер
У небе сонца развярне,
І разварушаны ім вецер
У даль памкне.**

**Калі жа пабляднее золак,
І цёмнай зробіцца вада,
Заззяе серабром іголак
Зор грамада.**

**І роўна мілымі зрабіцца
Здалеюць яркі блеск і цень,
Той дзень, што мае нарадзіцца,
І зніклы дзень.**

*1911*

* * *

Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю,—
Ой, пайду я з цеснай хаты ў тое поле.
Ў чыстым полі вецер вее, павявае,—
Ты пакінь мяне, нуда мая нямая!
Я тады б у песні звонкай, салаўінай
Выліў тугу і на вецер буйны кінуў,
І развеяў бы яе ён на раздоллі,
Каб не ўбачыць мне ніколі ўжо нядолі.

*1911*

* * *

Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае:
«Сцежка ў полі пралягае, траўкай зарастае.
Каля сцежкі пахіліўся явар да каліны,—
Там кахаліся калісь-то хлопец і дзяўчына.
Ой, ішла дарога долам, ды ішла і горкай,—
Не схавалася дзяўчына ад тэй долі горкай:
Бо ляжыць яе дарожка, траўкай зарастае;
Сумна глянуць, цяжка бачыць, жаль душу
праймае».

*1911*

* * *

**Бліщчыць у небе зор пасеў;**
**У полі — рунь і ў небе — рунь.**
**Да рэчкі лецячы, ўзляцеў**
**Між імі марай белы лунь.**

**Кажан пранёсся на крылах,**
**Стракочуць конікі ў траве,**
**Снуюцца мышы па палях,**
**Здаецца — ўсё вакол жыве.**

**Жыццё чуваць з усіх старон,**
**Жыццём напоўнены ўвесь мрок.**
**Ці ж загубіў плывучы сон**
**З чырвоных макаў свой вянок?**

*1911*

* * *

Добрай ночы, зара-зараніца!
Ўжо імгла над зямлёю лажыцца,
Чорнай рызай усё пакрывае,
Пылам зор небасхіл абсявае.
Цішыня агартае мне душу.
Вецярок прыдарожную грушу
Ледзьве чутнаваруша-калыша,
Міла бомы смяюцца ў цішы,
Ціха срэбрам грукае крыніца.
Добрай ночы, зара-зараніца!

*1911*

* * *

**Дзесь у хмарах жывуць павукі,**
**Што снуюць павучыну дажджа.**
**Кожны тлусты і мяккі такі,**
**Скура слізкая, як у вужа;**
**Ў целе стыгне халодная кроў,**
**Злосць бясцэльная ў мутных вачах...**
**Чуеш! Во шорах ног павукоў,**
**Аплятаючых сцены і дах.**

*1911*

## БУРА

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ў даль марудна праплывае.
Усё сціхла. Але вось паветра рассякае
Агністы меч і зіхаціць вясёла.

Ударыў ён — і грукат пракаціўся;
Мігае грозны меч, удары не сціхаюць,
І ўніз халодныя бічы крыві сцякаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся.

*1911*

* * *

**Ціха па мяккай траве**
**Сінявокая ноч прахадзіла;**
**Ціха з заснуўшых палян**
**Плыў у гару і знікаў,**
**Быццам дым сіняваты з кадзіла,**
**Рэдкі, правідны туман;**
**Неба ўсю глыб ажывіўшы,**
**Патроху праз цемнь выглядалі**
**Зорак дрыжачых вянкі;**
**Копікі суха звінелі;**
**Шырэй разліваліся хвалі**
**Цёмнай, люстранай ракі;**
**Пала раса; у палёх**
**Загарэліся пацеркі мілых**
**Жоўта-чырвоных агнёў...**
**Час, калі трэба журыцца**
**Душою на свежых магілах**
**Пуста пранёсшыхся днёў.**

*1911*

## ЯН І МАЦІ

Ты стамілася, змарнела, слёз праліла рэчку.
Што ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы свечку:
Мо паможа Яну гэты свет і пацер словы...
Асвяціла свечка з воску хлопца твар васковы.
Тае воск, і ўніз ціхутка капелькі сцякаюць,
А ў вачах збалелых Яна слёзы праступаюць.
Свечка свеціць, свечка ззяе, свечка дагарае,
І ў панурай, цеснай хаце хлопец памірае.
Ой, не век жа свечцы тонкай зіхацець, гарэці,—
Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на свеце...

*1911*

## ВЕЧАР

Месяц круглы ўстаў на небе,
Блішчыць невысока,
Увесь чырвона-жоўты, быццам
Пугачова вока.

З мілым, задушэўным зыкам
Важкі хрушч лятае;
Пра няшчаснае каханне
Нехта запявае.

Голас полем пракаціўся,
У бары аддаўся:
«А дзе ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся?»

І снуюцца сумна ў сэрцы,
Ўюцца адгалоскі
Роднай песні, простай песні
Беларускай вёскі...

*1911*

* * *

За дахамі места памеркла нябёс пазалота;
Паветра напоена ціха гусцеючым мрокам;
Ўжо відна, як іскры злятаюць з трамвайнага дрота,
Як зоркі гарацць і зрываюцца ў небе далёкім.

Музыкі стагнанне ліецца па вулках з бульвара,
Гарацць і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;
Ўкруг тоўстага шкла яна ўецца, як лёгкая хмара,
А к светлу прабіцца не можа... і топіцца марна.

І ўспомніў я час: срэдзь асенняй нахмуранай ночы
Музыка зайграла, агні ў вышыне запалалі,
І дыхалі грудзі шырока, свяціліся вочы...
Мы к светлу ўзляцелі... і шкло ўкруг яго напаткалі.

*1911*

# АКТАВА

Як моцны рэактыў, каторы выклікае
Між строк ліста, маўляў нябожчыкаў з магіл,
Рад раныш нявідных слоў,— так цемень залівае
Зялёны, быццам лёд, халодны небасхіл,
І праз імглу яго патроху праступае
Маленькіх, мілых зор дрыжачы, срэбны пыл.
Здароў, радзімыя! Мацней, ясней гарыце
І сэрцу аб красе прыроды гаварыце!

*1911*

## РАНДО

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла;
Вада балот, стаўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваей адбіла.
І гімн спявае жабаў хор
Красе, каторую з'явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарашчы міла
Узор.

І сонца дальш клянуць, што скрыла
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб не ўчуць вышэй ад гор
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

*1911*

## САНЕТ

*Ахвярую А. Пагодзіну*

Un sonnet sans défaut
vaut seul un loug poème.
*Boileau* *.

**Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,**
**Над хвалямі сінеючага Ніла,**
**Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:**
**Ў гаршку насення жменю там знайшлі.**
**Хоць зернейкі засохшымі былі,**
**Усё ж такі жыццёвая іх сіла**
**Збудзілася і буйна ўскаласіла**
**Царой вясенняй збожжа на раллі.**

**Вось сімвал твой, забыты краю родны!**
**Зварушаны нарэшце дух народны,**
**Я верую, бясплодна не засне,**
**А ўперад рынецца, маўляў, крыніца,**
**Каторая магутна, гучна мкне,**
**Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.**

*1911*

---

* Беззаганны санет варты адзін цэлай паэмы
*Буало (франц.).*

* * *

Была каліась пара: гучэла завіруха
І замяла маей мінуўшчыны сляды.
Усціхла ўжо яна... Плывуць удаль гады,
А ўсё не б'юцца скрыдлы духа:
Куды цяпер ісці? Куды?

Ў душы гарыць агонь нуды,— пануры, чорны.
Ці мне крыніцай слёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкага мучэння сэрца ўзрыць? —
Мо ўзойдуць там надзеі зёрны!..
Куды ж ісці і што рабіць?

*1911*

* * *

**Дзе вы, лясоў, палёў цвяты?**
**Вас холад загубіў!**
**Чаму ж ён срэбныя цвяты**
**На гэтым шкле ўзрасціў?**

**Ім, бледным, мёртвым, не збудзіць**
**Былога пачуцця,**
**Як не змагу яго збудзіць**
**Халодным вершам я.**

*1911*

* * *

Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне даспадобы;

Але не меней
Сэрцу пападны
Мёд сваім хмелем
Светлым і тонкім.

*1911*

* * *

...passe sans laisser même
son ombre sur le mur.
*V. Hugo* *

**Жывеш не вечна, чалавек,**
**Перажыві ж у момант век!**
**Каб хвалявалася жыццё,**
**Каб больш разгону ў ім было,**
**Каб цераз край душы чуццё**
**Не раз, не два пайшло.**

**Жыві і цэльнасці шукай,**
**Аб шыраце духоўнай дбай.**

**І ў напружэнні паўнаты**
**Свайго шырокага жыцця**
**Без болю, ціха зайдзеш ты**
**Ў краіну забыцця.**

*1911*

---

* ...праходзіць, не пакідаючы
навват свайго ценю на сцяне.
*В. Гюго (франц.).*

* * *

Кінь вечны плач свой аб старонцы!
Няўжо жа цёмнай ноччу ты
Не бачыш, што глядзіцца сонца
У люстэрка — месяц залаты?

Не згасла сонца! Сонца гляне,
Усіх падыме ада сна.
Ён, гэты дзень, яшчэ настане,—
І ачуняе старана!

Я пад яе зімовай маскай —
Пад снегам — бачу твар вясны,
І вее верш мой дзіўнай казкай,
І ясны ён, як зорак сны.

*1911*

## СРЭБНЫЯ ЗМЕІ

Срэбнымі рожкамі мгліцца
З цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца,—
Рушыцца ў ім вадзянік.

Ў хвалях гуляць выпускае
З віру змяю за змяёй;
Вось іх грамада ўсплывае,
Срэбнай ірдзіцца луской.

Будуць яны ўсю ноч віцца,
Ў хвалях хрыбтамі блішчаць;
Будуць сціскацца, круціцца,
Гэтак да рання гуляць.

Свецячы блескам чырвонца
Праз парадзеўшую мглу,
Пусціць, ўстаючы, сонца
Ў іх залатую іглу.

Згіне змяя за змяёю,
Зпікне з нябёс маладзік.
Доўга па іх пад вадою
Будзе ўздыхаць вадзянік.

*1911*

## ПЕРШАЯ ЛЮБОЎ

Ўжо позна. Мрок вясенняй ночы
На вузкіх вуліцах ляжыць.
А мне — вясёла. Блішчаць вочы,
І кроў ад шчасця аж кіпіць.

Іду я радасны, харошы,
Знікае з сэрца пустата...
А пад рызінавай калошай
Ціхутка хлюпае слата.

*1911*

* * *

Маркотна я чакаю. Для чаго ты
Не выйдзеш з хаты ў жаркі поўдзень зноў?
Тады бы, пэўна, выціснулі боты
Па мяккаму асфальту рад слядоў.

І я, нявідны для цябе і бледны,
Не бачачы нічога ўкруг сябе,
Прыпаў бы к ім... І вось чакаю бедны:
Ці ж хутка з'явіцца канец журбе?

*1911*

* * *

Пад ценню цёмных ліп, схаваўшых нашу пару,
Мы йдзем праплёванай дарожкай па бульвару;
Акуркі, шалуха, паперкі пад нагамі,—
Ды ці прыкмечу іх, калі іду я з Вамі?
Праз дымчаты крышталь празрыста-цёмнай ночы
Ідушчых міма нас людзей зіяюць вочы;
У цемні к нам плывуць рубіны папяросаў,
Ліхтарні блеск адкрыў па ліпе россып росаў...
Ах, колькі ёсць красы цудоўнай поруч з намі,
Калі глядзець вакол дзіцячымі вачамі!

*1911*

* * *

Разгарайся хутчэй, мой агонь, між імглы,—
Хай цябе шум вятроў не пужае:
Пагашаюць яны аганёчак малы,
А вялікі — крапчэй раздуваюць.
Разгарайся хутчэй, зіхаці, аганёк,—
Каб, калі і замёр ты без долі,
Ўсіх спужаў бы страшны абступіўшы іх
мрок,
Хай агнёў не гасілі б ніколі.

*1911*

## Д. Д. ДЗЯБОЛЬСКАМУ

Быць можа, пуціна жыцця
Лягла пярсцёнкам, друг,
І я ў краіне забыцця
Не раз раджаўся, як дзіця,
Прайшоўшы поўны круг.

Быць можа, я не скончу жыць,
Бо ў ім няма канцоў.
Зноў шлях знаёмы пабяжыць,
І ўсё, што мозг здалеў забыць,
Перажыву я зноў.

Быць мо ў прасторы беза дна
Увесь час мой круг ляціць,
І ўся навіна та адна,
Што ў іншым месцы пуціна
Мо інакш заблішчыць.

І ў новым свеце пройдзе ўсё
Былое прада мной...
Што ж: хай канчаецца жыццё,
Хай зноў зварушыцца чуццё
Мінулай пуцінай.

*1911*

* * *

**Не бядуй, што хмары**
**Сонца свет схавалі.**
**Нарадзіцца мусіць**
**Бура з гэтых хмар.**
**Праўда, ўсё прыціхла...**
**Бор замоўк і хвалі,**
**Але будзе бура,**
**Тым мацней удар!**

*1911*

# ЛЕТАПІСЕЦ

Ўсё прайшло, мінула,
Як і не было,
У капцах паснула,
Зеллем зарасло.
*Я. Купала*

**Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,**
**Свой век канчае ён у манастырскіх мурах.**
**Тут ціша, тут спакой — ні шуму, ні клапот.**
**Ён пільна летапіс чацвёрты піша год**
**І спісвае усё ад слова і да слова**
**З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.**
**І добрыя яго і кепскія дзяла**
**Апавядае тут. Так рупная пчала**
**Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак.**
**І бачанаму ім — ён годны веры сведак.**
**Што тут чынілася у даўныя гады,**
**Што думалі, аб чым спрачаліся тады,**
**За што змагаліся, як баранілі веру,—**
**Узнаюць гэта ўсё патомкі праз паперу!**
**Яно забудзецца, умрэ, з вадой сплыве,—**
**І вось у спомінах устане, ажыве,**
**Калі знайдуць яго няхітрае пісанне**
**Пра гэтае жыццё, надзеі, спраўаванне.**
**Так мора сіняе прымчыць да нас вадой**

**Бутэльку к берагу, аблітую смалой,**
**Ўсю ў дробных ракаўках і ў ціне. Не замала**
**Яна была ў вадзе і шмат чаго спаткала.**
**Рыбалкі вылавяць бутэльку, разаб'юць**
**І, як трапляецца, быць мо у ёй знайдуць**
**Ліста. Па звычаю марскому гэтак весці**
**Нам, утапаючы, шлюць людзі. Ў моры дзесьці**
**Загінулі яны, і, можа, соткі год**
**З тых часаў працяклі, і згінуў іх народ,**
**І ўсё змянілася і ўжо пра іх забылі.**
**Вы, літары, цяпер нанова ўсё збудзілі!**
**І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх,—**
**Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,**
**Каму маліліся, чаго яны шукалі,**
**Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі.**

*1912*

## ПЕРАПІСЧЫК

На чыстым аркушы, прад вузенькім акном,
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі звяроў
І птах нявіданых, спляценнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь — даволі ёсць знароўкі —
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі,
І загалоўкі ўсе,— няма куды спяшыць!
Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць
Пяро гусінае, і гляне: светла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае аконца,
І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,
Рой хмарачак плыве, шырокімі кругамі
У небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,
Як жар гарашчымі, а тут, каля акна,
Малінаўка пяе і стукае жаўна.
І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць
Няяркім серабром; нячутна дзень праходзіць;
Ужо хутка будзе ноч, і першая звязда
Благаславіць канец прыгожага труда.

*1912*

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

*(Рэдакцыя зборніка «Вянок»)*

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

*1912*

## БЕЗНАДЗЕЙНАСЦЬ

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны п'е адвар пан земскі пісар хворы,
І ўраз пабачыў ён, што ізумруд
У пярсцёнку залатым на пальцы штось імгліцца,
Што блеску ў ім няма... І з болем тут
Ён зразумеў, што ўжо к жыццю не вараціцца.

*1912*

## САНЕТ

Замёрзла ноччу шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!
Цяпер няма ўжо руху ні сляда,
І нават зверху слоем снег лажыцца.
Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, струіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны свет прабіцца.

Прыклаў я гэты сімвал да сябе,
Схіліўшыся ў надсільнай барацьбе,
І разгадаў прыроды роднай словы.
Як — прамаўчу, бо кожны з вас — паэт.
Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы,
Сваей душы туды праліце свет!

*1912*

* * *

Ўчора шчасце толькі глянула нясмела,—
І развеяліся хмары змрочных дум.
Сэрца чулае і млела, і балела,
Радасць душу мне шчаміла, быццам сум.

Усё жыццё цяпер, як лёгкая завея,
Кнігу разгарнуў — а не магу чытаць.
Як зрабілася, што пакахаў цябе я,—
Хіба знаю я? Ды і на што мне знаць?

*1912*

* * *

Даўно ўжо целам я хварэю,
    І хвор душой,—
І толькі на цябе надзея,
    Край родны мой!
У родным краю ёсць крыніца
    Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
    Сваёй нуды.
Калі ж у ім умру-загіну,—
    Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
    Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
    Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
    Сабе спакой.

*1912*

* * *

Ціхі вечар; знікнула спякота,
Весялей струіцца між чарота
Рэчка, што ўцякае у ставок;
Ўкруг яго ідзе вярбін вянок
Йшчэ зялёных, свежых, хоць каравых;
Плесня каля берагоў іржавых
Саматканым поясам ідзе,
І лілеі расцвілі ў вадзе.
Часам з візгам ластаўка малая
Пранясецца нізка і чыркае
Крылечкам з разгону гладзь стаўка,
Налякаўшы гэтым матылька.
Часам лінь ці окунь успляснуцца,
І кругі шырока разыдуцца.
Часам выпаўзаюць паляжаць
Тут вужакі шэрыя на гаць,
У канцы каторай млын схіліўся;
Спарахнеў ён, ледзь не разваліўся,
Пачарнела кола і даўно
Мохам цёмным абрасло яно.
Але сёння ходзіць кола млына,
Бо прыйшла да млынара дзяўчына,
Каб памог сукруху з сэрца збыць.
Ў белай вопратцы яна стаіць,

Нахіліла смуглую галоўку,
І чуваць, як сэрца праз шнуроўку
Часта б'ецца. А стары млынар
Тройчы брызнуў ёй вадой на твар
І, уставіўшы на хвалі вочы,
Прыглушоным голасам шапоча:
«Пакланюся я табе, царыца,
Чыстая, сцюдзёная вадзіца.
Ты цячэш балотамі, імхамі,
Жоўтымі, сыпучымі пяскамі,
Берагі крутыя падрываеш,
Дрэвы ды каменні падмываеш
І нясеш іх к мору-акіяну,
К выклятаму востраву Буяну.
Там і вецер буйны не гуляе,
Там і сонца краснае не ззяе,
Там не блішча ясная зарніца,
І прыносіш ты туды, вадзіца,
Важкі сум ад сэрца Кацярыны.
Я навокал абваджу тры тыны,
На замок іх моцна замыкаю,
Ключ у мора-акіян кідаю.
Як са дна ключу ўжо не падняцца,
Так і гэтым словам не мінацца».
І падносіць млынару дзяўчына
Яйкі ў рэшаце і палатніну.

*1913*

* * *

Па ляду, у глухім бары,
Дзе ля раллі стаяць тры хаты,
Мужык ідзе,— на світцы латы,
А сам няхібкі, хоць стары.

З чупрынай белаю, як лунь,
І з барадою снегавою,
Зямлёй прапахшы і сасною,
Ён пільна ўсё глядзіць на рунь.

«А каб ты здох! Бач, па расе
Хтось трапіў к збожжу ад крыніцы,
Ды вось і вузкі след капытца:
Алені тут былі ў аўсе.

Усё знішчаць, падлы, хоць не сей,—
Не дачакаеш умалота!
А тут яшчэ цераз балота
Не прабярэшся да людзей».

Снуюцца хмарай камары;
Кішмя кішаць у зёлках гады;
Паддшывам абрастаюць ляды...
Звядуць, звядуць людзей бары.

Даўно пачаў «хадзяін» дбаць,
Каб пушча тут была нанова,
Ды толькі ведае дзед «слова»,
А то дабра бы не зазнаць.

*1913*

* * *

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людскі скрозь заліў паясы тратуараў,
Бліпчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,
І гараць агаиьком вочы змучаных твараў!

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасвецкіх будынкаў;
Між каменнямі — мох і сцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыферблат — пільны сведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сняць
У небе купалы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Успамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра усе, якналежа,
Зачынілі ўжо вокны; загасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І не спім мы адны —
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

*1913*

## У ВІЛЬНІ

*(Санет)*

Ліхтарняў свет у сіняй вышыне...
Вітрыны... мора вывесак... як плямы,
Анонсы і плакаты на сцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчыя рэкламы...
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул — усё ракой імкне.
А дальш — за радам кас, ламбардаў, банкаў —
Агні вакзала... павадка фурманкаў...
Віры людзей... сіпяшчы паравоз...
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўныя прынады!

*1913*

* * *

На глухіх вулках — ноч глухая.
Не менш глухі людскі натоўп.
Дык хто ж пачуе, як спявае,
Як стогне тэлеграфны стоўп?

І места, дзе няма прастора
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіла сцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў, магіл.

Палёў, дзе круціць завіруха,
Ўзрываючы халодны снег,
Палёў, дзе ўсё бушуе глуха,
Дзе чутны разам стогн і смех!

І вось той гул мне ў душу ўліўся.
Гудзі, гудзі, дрыжачы дрот!
Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот.

*1913*

## ЗАВІРУХА

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
І спеў ліецца ўсё мацней,—
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Ўскіпела снежнае віно,
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.

*1913*

* * *

Сеў хлопчык з шкляначкай ля вулічнага ганку
І выдувае з мыла пузыры
Вясёлкаю гарэць яны ў зіянні ранку,
Ўзлятаючы ў паветра дагары.

І, заварожаны шматфарбнаю красою,
Са спрытнасцю і хцівасцю ката
Хапае хлопчык іх няжорсткаю рукою,
А застаецца ў ёй — адна слата.

*1913*

* * *

Ад спекі пышуць дахі і асфальт,
На вулцы ўецца пыл, і грукаціць фурманка;
«Каробушку» пяе дзіцячы альт,
І надрываецца абрыдлая шарманка.

Мо на бульвар пайсці, сесць на далёкай лаўцы,
Хаця бы крышку часу адпачыць!
Здрамнуць, газету свежую купіць
І прачытаць усё да імені выдаўцы?

*1913*

## РАМАНС

Quand luira cette êtoile, un jour,
La plus belle et la plus lointaine,
Dites-lui qu'elle eut mon amour,
O derniers de la race humaine.
*Sully-Prudhomme* *.

**Зорка Венера ўзышла над зямлёю,**
**Светлыя згадкі з сабой прывяла...**
**Помніш, калі я спаткаўся з табою,**
**Зорка Венера ўзышла.**
**З гэтай пары я пачаў углядацца**
**Ў неба начное і зорку шукаў.**
**Ціхім каханнем к табе разгарацца**
**З гэтай пары я пачаў.**
**Але расстацца нам час наступае;**
**Пэўна, ўжо доля такая у нас.**
**Моцна кахаў я цябе, дарагая,**
**Але расстацца нам час.**
**Буду ў далёкім краю я нудзіцца,**
**У сэрцы любоў затаіўшы сваю;**
**Кожную ночку на зорку дзівіцца**
**Буду ў далёкім краю.**

---

* Калі заблішчыць гэта зорка,
Самая цудоўная, самая далёкая,
Скажыце ёй, што ёй належыць маё каханне,
О, апошнія з чалавечага роду.
Сюлі Прудом *(франц.)*.

**Глянь іншы раз на яе,— у расстанні**
**Там з ёй зліём мы пагляды свае...**
**Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,**
**Глянь іншы раз на яе...**

***1913***

* * *

Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.
Бо не тое сведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае,
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.

*1913*

* * *

Цветы последние милей
Роскошных первенцев полей.
*А. Пушкин*

**Плакала лета, зямлю пакідаючы;**
**Ціха ліліся слязінкі на поле.**
**Але прыгожаю восенню яснаю**
**Там, дзе упалі яны, выраслалі**
**Кветкі асеннія, кветкі, ўспаёныя**
**Тугаю, горам, слязінкамі лета.**
**Кветкі асеннія, родныя, бледныя!**
**Выраслі вы, каб ураз жа і згінуць.**
**Можа таму-то душа надарваная**
**Гэтак любоўна вянок з вас сплятае.**

*1913*

* * *

Ноч. Газніца гарыць, чырванее,
І гарбата, астыўшы, стаіць.
За сцяной запявае завея,
Сумна бомамі ў полі звініць.
З краю ў край яе гул аддаецца,
І чагось усё думаю я,
Што з няволі зімовай там рвецца
Крэпка скутая снегам зямля;
Грудзі моцныя цяжка ўздымае,
Ветрам вее, як дыхаць пачне,
Снег халодны ў палёх калыхае
І вось-вось свае путы страхне.

*1913*

* * *

Нашых дзедаў душылі абшары лясоў.
Не давалі ім жыці праўдзівым жыццём,
І яны тыя пушчы звадзілі агнём,
Іх кругом надпаліўшы з далёкіх канцоў.

І пылалі па нашаму краю лясы,
Покуль сонца здалела ўсё ў ім асвяціць;
І святлей і прасторней тады стала жыць,
А на попеле буйна ўзраслі каласы.

З гэтых дзедаў суворых прыклад нам бы ўзяць —
Не хіліцца з бяды, не пужацца агня,
Бо мы толькі тады дачакаема дня,
Калі нас не здалее змаганне злякаць.

*1913*

* * *

Ўстань, навальніца, мкні нанова,
Ўзвый, вецер, з ёю заадно!
У віхры уляціць палова,
Пакіне чыстае зярно.

Удар, цыклон, удар на мора,
Цалуй яго ў глухое дно,
Ўспляснi ваду — і перлаў горы
На бераг выкіне яно.

*1913*

* * *

Ўся ў слязах, дзяўчына
Хіліцца да тына.
Поруч з ёю пад расою
Зіхаціць шыпшына.

Вецер павявае
І расу страхае.
Ой, напэўна, і дзяўчына
Лек на слёзы мае.

Адгадайце ж, людзі,
Хто страхаць іх будзе?
І чаму ён, жаўтадзюбы,
Аж дасюль марудзе?

*1913*

* * *

Падымі угару свае вока,
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыдуць-адлынуць далёка
Ад душы ўсе трывогі жыцця,

Ей не трэба ні шчасця, ні ласкі,
У ей няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

*1913*

* * *

Ой, чаму я стаў паэтам
Ў нашай беднай старане?
Грудзі ныюць, цела вяне,
А спачыць не можна мне:
Думкі з розуму ліюцца,
Пачуццё з душы бяжыць...
Мо за імі кроў палыне,
І тады ўжо досі жыць!

*1913*

* * *

Напілося сонца са крыніц сцюдзёных,
Усцягнула ў вышу з іх ваду, як пар;
І, ўзляцеўшы шпарка па праменнях тонкіх,
Пар зрабіўся слічнай чарадою хмар.

Ў даль яны памкнулі, і лятуць пад імі
Нівы ды балоты, поле, бор, лука.
Але што там блішча? Ці не ты, сястрыца,
Ці не ты ліешся, срэбная рака?

Загрымелі ў хмарах гулка прывітанні,
І далёка буйны вецер іх разнёс.
Рынуліся хмары да ракі радзімай
І зліліся з ёю ліўнем кропель-слёз.

*1913*

## САМНАМБУЛ

Месяц выплыў над змрочнай, заснуўшай зямлёй,
І павёў яго ў цёмную даль за сабой,
І прывабіў да мглістай халоднай вады,—
Сэрца білася рыбкай у сеці тады,
Але месяц правёў праз раку светлы шлях,
І развеяўся з сэрца дрыжачага жах.
Зіхацела яна — серабра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна.
Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,
Але вось час жаданы нарэшце настаў...
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішына, глыбіна.

*1913*

* * *

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Упадзе пясчынка хоць адна,—
Жомчугам патроху робіцца яна!
Калі ў дух мой западзе і заварушыцца
Там кавалак грубага жыцця,—
Ў жомчуг звернецца ён сілай пачуцця!

*1913*

* * *

Свяча бліскучая зіяе,
Каб расступілася імгла;
Ў яе агні — краса жывая,
Яна прыгожа і святла.
Ўблізі матыль дрыжыць ад болю,
Прываблены з імглы агнём.
Ён рынуўся туды без волі
І смерць сваю спаткаў у ём.
Свяча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля, як раса,
А матылёк ужо не б'ецца:
Табе ахвяра ён, краса!

*1913*

## ГУТАРКА З ПАНЕНКАМІ

«Прабачце! Ластаўка малая
Для птушанят гняздо зрабіла
І клапатліва ўкруг лятае,—
Аж паглядзець прыемна-міла!»

«Вельмі шаноўныя паненкі!
Тут ёсць напэўна трохі цуду:
Ў гняздзечку міленькім і сценкі
І дно яна зляпіла з бруду».

*1913*

* * *

**Вы кажаце мне, што душа у паэта,**
**Калі спараджае ён дзіўныя вершы,**
**Нябесным агнём абагрэта,**
**І ў час той між люду ён — першы...**
**Ах, дзякуй Вас, дзякуй на гэтай прамове;**
**Душа мая, пэўна, шчаслівай была бы,**
**Калі б я не ведаў, панове,**
**Што пекна спяваюць і жабы.**

*1913*



Вы, панове, пазіраеце далёка,
Ў блеску сонца з велізарных плеч народных,
Але светла крые шмат чаго ад вока —
Днём не бачыце Вы зорак пуцяводных.

Загляніце жа, будзь ласка, Вы у студню:
Ўжо даўно яна счарнела і згнівае,
Але дно яе і ў ночы і ў палудню
У вадзе люстранай зоры адбівае.

К тым, каго жыццё зацiснула глыбока
Ўніз, у норы падзямельныя пад Вамі,
Вы, панове, хоць і бачыце далёка,
Загляніце ў душы — студні са слязамі.

*1913*

* * *

**Мы доўга плылі ў бурным моры,**
**І ўраз — жаданая зямля!**
**Вы пэўны пуць казалі, зоры,**
**Зарука ў тым — трэск карабля,**
**Што сеў на скалы ў змрочным моры.**
**Прывет, жаданая зямля!**
**І бестрывожна бачаць зоры,**
**Як тонуць людзі з карабля.**

*1913*

* * *

Шмат у нашым жыцці ёсць дарог,
А вядуць яны ўсё да магілы.
І без ясных надзей, без трывог,
Загубіўшы апошнія сілы,
Мы сайдзёмся, спаткаемся там
І спытаем сябе: для чаго мы
Па далёкіх і розных пуцях
Адзінока йшлі ў край невядомы?
І чаму паспяшаліся так,
Напружаючы ўсе свае сілы,
Калі ціха паўзушчы чарвяк
Усё ж дагнаў нас ля самай магілы?

*1913*

## НЕПАГОДАЮ МАЕВАЙ

Падаюць вішняў цвяты, і разносіць іх вецер халодны;
Снегам у чорную гразь падаюць вішняў цвяты.
Плачце, галіны, лісты! Загубілі вятры цвет
ваш родны,—
Не к чаму болей вам жыць. Плачце, галіны, лісты!

*1913*

## САНЕТ

Ne ris point du sonnet,
o critique moquer.
*S.-Beve* *.

**На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За снег нябёснай вышыні бялей,
Закрасавалі чашачкі лілей
Між пачарнеўшых каранёў чарота.
Ўкруг плесня, бруд,— разводзіць гніль спякота,
А краскі ўсё ж не робяцца грязней,
Хоць там плыве парою слізкі змей,
І ржаўчына ляжыць, як пазалота.
Цяпер нават здаволена багно:
Гніль сотні год збіраючы, яно
Смуроднай жыжкаю узгадавала
Цвятоў расістых чыстую красу.
Маліся ж, каб з літоўнасці стрымала
Тут смерць сваю нязвонкую касу.**

*1913*

* Не смейся над санетам, о насмешлівы крытык. *С.-Бёў.*

## ТРЫЯЛЕТ

Красавец юный, Триолет.
*К. Фофанов*

**Як птушка ў гібкіх трасніках,**
**Стралою думка мільганула**
**І ўраз жа знікла, патанула,**
**Як птушка ў гібкіх трасніках,**
**Ды ўсё ж душа яе пачула**
**І ўжо пяе ў такіх славах:**
**«Як птушка ў гібкіх трасніках,**
**Стралою думка мільганула».**

*1913*

## ТРЫЯЛЕТ

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я.
Няхай усе з мяне рагочуць.
Адповедзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.

*1913*

## ТЭРЦЫНЫ

Ёсць чары у забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць
І жыць мінулым — гэткім мудрым, слаўным,—

Мы любім час далёкі ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

Таму вярнуўся я к рандо, санетам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым светам,—

Так вершы ззяюць даўняю красой!

*1913*

* * *

Хоць мы былі адны ў той час,—
Я і зірнуць не смеў на Вас,
І тое, што тады зрабілася,
Знянацку выйшла, але ўраз.

Не помню, як — я ручку ўзяў,
Не помню, як — пацалаваў,
Ціхутка пальчыкі цалуючы,
Як да дзіцёнка, ў лад казаў:

«Сарока-варона кашку варыла,
Дзетак карміла;
Гэтаму дала, гэтаму дала,
А гэтаму не дала:

Ты мал, глуп, табе кашка на палічцы
Ў чарапічцы.
Шух, шух, паляцелі,
На другую селі».

*1913*

## У ВЕСЦЫ

Lumen coeli, sancta rosa! *
*А. Пушкін.*

Хвалююць сэрца нам дзявочыя пастаці
І душы мацярэй нас могуць чараваці;
Вышэйшая краса — ў іх злітнасці жывой!
Артысты-маляры схіляліся прад ёй,
Жадаючы з'явіць праз свае халсціны
Пачуцці мацеры у вобліку дзяўчыны.
Красы тэй сімвалам, маць-дзева, стала ты,—
І глянулі твае з-пад пэндзаляў чэрты.
З таёмным трэпетам на іх я пазіраю,
А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю.
Мінулае сваё прыпамінаю я!
Між цёмных абразкоў прайшоўшага жыцця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душою,
І здаранне адно ўстае перада мною.

---

Калісьці летняю рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Панураю чаргой
З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі — шэрыя, струхлеўшыя; як латы,
Віднеліся ў сцянах сляпыя вокны іх,
І аж счарнелася салома стрэх гнілых.
Усё руйнавалася, старэла, адмірала,

* Светач мыслі, святая ружа!

І мала што вакол хоць трохі аздабляла
Вясковую нуду: мак яркія цвяткі,
Рознакалёрныя, як тыя матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можна йштэ было там-сям пабачыць грушу,
Крывую, старую... вось толькі і ўсяго.
І да таго ж з людзей не відна нікаго,—
Яны на полі ўсе; не мельканець спадніца,
Не пройдзе з вёдрамі па воду маладзіца,
Не ўгледзіш белую магерку мужыка,
У паветры не памкне іржанне жарабка,
І песня сумная не паліецца звонка...
Што ж дзіўнага, калі, раптоўна крык дзіцёнка
Пачуўшы, дрогнуў я і аглядзеўся. Ах!
Я спудзіў хлопчыка; на руках і нагах
Ён, бедненькі, папоўз па траўцы ля сцяжынкі,
Да нянькі траплячы — так год васьмі дзяўчынкі.
І вось, дабраўшыся, ў падолак разам к ей
З трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй;
І, як схіляецца ад ветру верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і, слёзкі
Сціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач — зусім, як быццам маць,
І саліваліся ў жывы абраз ядыны
Той выгляд мацеры ды з воблікам дзяўчыны,
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою,
І, помню, я на міг пахарашэў душою.

А можа не краса была ў дзяўчынцы той,—
Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой,—
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз маці божай лікі.

---

Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!
Зноў з ціхай радасцю цябе чытаю я,
Хай шмат чаго ўжо з тых гадоў крыніца змыла
У памяці маёй, хай тэй дзяўчынкі мілай
Ўжо воблік губіцца у цёмнай глыбіне,
Я веру, ў цяжкі час ён гляне на мяне.

*1913*

## ВЕРАНІКА

*(Вершаванае апавяданне)*

«È un pensier del mio capo».
*Giovanni* *.

Я на душы ўражлівай маю
Жыцця мінулага пячаць:
Схачу свой вольны верш пачаць,—
І ўраз пра прошлае згадаю;
Удаль вядуць мяне сляды

Да вас, дзіцячыя гады.
Ўстае перад маім паглядам
І вулка, веючая сном,
І ціхі старасвецкі дом
З цяністым, адзічэлым садам;
Над ім шпакоўніца ўгары,
А ўкруг схіліўся тын стары.

Дом гэты да паноў Забелаў,
Суседзяў нашых, наляжаў;
Я змалку там штодзень гуляў,
З дзяцьмі іх лез на дахі смела,
Рваў яблыкі, рабіў садом
І крыкам поўніў цэлы дом.

Вясёла йшлі гулянкі нашы:
Пад шум і гук размах рукі

* Яна — выдумка маёй галавы. Джавані *(італ.)*.

Збіваў здалёку гарадкі,
Быў чутны смех пры відзе «кашы»,
І кожны стрымываў свой плач,
Калі ўразаўся ў плечы мяч.

А вечарком мы выпускалі
Ў паветра белых галубоў:
Зрабіўшы некалькі кругоў,
У вышыню яны шыбалі,
Як чысты снег, кружылі там
І падалі на дахі к нам.

Калі ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх свет праз небасхіл,
І уплятаўся вулак пыл,—
Мы ўсе пяялі каля хаты,
І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песняй сціхшы двор.

Так у гулянках пралятала
Маё дзіцячае жыццё,
А поруч ціхае дзіцё,
Дачка Забелаў, узрастала.
Яе я мала знаў: яна
Ўсягды была сама, адна.

Жылося цяжка Верапіцы
(Хай так дзяўчыну будзем зваць):
Яе памерла рана маць,

І не было саўсім сястрыцы,
А бацька сэрца хоць і меў,
Ды прытуліць яе не ўмеў.

Таму з маленства палюбіла
Хавацца ў сад стары яна,
Дзе веяла дыханне сна
І цішыня ў паветры плыла,
І нерухомы быў спакой,
Маўляў у глыбіні марской.

Не калыхнуцца лісцяў хвалі,
Ўспляснуўшы пенаю цвятоў
Паверх чарэшневых кустоў;
Кіпіць шум места дзесь там далі,
А тут і глуха і цямно,—
Не зварухне марское дно.

І забывала Вераніка
Між зёлак з кніжкай аба ўсём,
А ўзгляне,— сад кіпіць жыццём:
Над ёю куст шыпшыны дзікай,
Бруяе блізка сонны шмель,
І горка пахне тонкі хмель.

Ізноў страніца за страніцай
Раскрытай кнігі шалясціць;
Нячутна час кудысь бяжыць,
Раяцца думкі Веранікі,—

Усё расце душа яе
І ў паўнаце красы ўстае.

Калі ж асеннія навіны
Змянялі сад, калі з бяроз
Рваў лісце вецер, а мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі прэлых лісцяў слой;

Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага галля чарнелі,
І грозны вечара пажар
Пылаў між бура-шызых хмар;

Калі асенні вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш жалезны дах,—
Тады да лета Веранікa
Ад нас знікала ў інстытут
І не будзіла згадак тут.

А час усё каціўся далі.
Хаваючы на дне гадоў
І гарадкі і галубоў;
Мы непрыкметна падрасталі,
А іншы ўжо шчыпаў вусы
І лічыў іх гарой красы.

І толькі ўжо тады я ўгледзеў,
Што поруч, як цвяток лясны,
Ўзрасла ў красе сваей вясны
Дачка самотная суседзяў.
І — помню я — тады жа ўперш
З маёй душы паліўся верш.

Ён там кіпеў струёй жывою,
Праз холад мыслі працякаў
І ў цвёрдых формах застываў,
Як воск гарачы пад вадою,
Каторым трэба вам гадаць,
Аб чым той вершык меў казаць.

Я ж сам скажу йшчэ тое толькі,
Што к Вераніцы твор паслаў
І млеў і ўсё адказ чакаў.
Аж вось прайшло маруды колькі
Трывожных дзён, а ўсё няма
Ні Веранікі, ні пісьма.

Калі ж я неяк з ёй спаткаўся,
Загаварыўшы, як у сне,—
Яна зірнула на мяне,
І раптэм з вусн яе сарваўся
Такі бязвінны, чысты смех,
Што на яго злавацца — грэх.

Смех гэткі маюць толькі дзеці
Ды людзі з яснаю душой;
І ён, як жаваранак той,
Звінеў і ўжо кахання сеці
Нячутна ніштчыў, як ураз
Сарваўся, дрогнуў і нагас.

Накрыла ясны твар дзявочы
Задумы сумная імгла,
На плечы ручка мне лягла,
Спагадліва зірнулі вочы
І даляцеў к маім вушам
Ласкавы шэпт: «Мо больна вам?»

Не, зорка, мне было не больна,
Бо бачыла адно душа,
Як ты свяжа і хараша,
Як рада ты жыццю нявольна,
Уся пад срэбнаю расой
Са йстужкай скромнай між касой.

І мела дзеўча выгляд маці,
Калі тады ка мне яна,
Трывожнай ласкаю паўна,
Схілілася, як да дзіцяці,
Зіяючы перада мной
У новай пекнасці жывой,

У тэй, што з постаццю дзяўчыны
Злівала мацеры чэрты.

О, як прыгожы-дзіўны ты,
Двайной красы аблік ядыны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадонн тварыцель, Рафаэль!

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Скланіўся я душой маёй,
Натхненнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было,
Там запалілася цяпло.

Дасюль яшчэ яно пылае;
Здаецца — ўмёрла, але ўраз
Праб'ецца зноў, і пройшлы час
Прад ім у згадках праступае,
Як пры агні ці цеплаце
Таемны подпіс у лісце.

І конь крылаты да Парнаса
Мой дух імчыць тады, каб я
Былое апяваў пасля.
Ды як знайсці сляды Пегаса
На бруку места? Цяжка ўперш!
Спачынь жа трохі, верны верш!

## ЭПІЛОГ

Ізноў пабачыў я сялібы,
Дзе леты першыя прайшлі:
Там сцены мохам параслі,
Вясёлкай адлівалі шыбы.
Усё ў пылу. І стала мне
Так сумна, сумна ў цішыне.
Я ў сад пайшоў. Усё глуха, дзіка,
Усё травою зарасло.
Няма таго, што раньш было,
І толькі надпіс «Вераніка»,
На ліпе ўрэзаны ў кары,
Казаў вачам аб тэй пары.
Расці, ўзмацовывайся, дрэва,
Як манумент жывы, ўставай
І к небу надпіс падымай.
Хай нерухомы словы спева:
Чым болі сходзіць дзён, начэй,
Тым імя мілае вышэй.

*1913*

## ТРЫЯЛЕТ

Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.
Чаму ж нядобры час прынёс
Мне доўгае расстанне з Вамі?
Я пабляднеў ад горкіх слёз
І трыялет пачаў славамі:
Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.

*1913*

## УСПАМІН

«Дзень гэты,— так пісаў Катул,—
Я белым каменем адзначу».
Дасюль я рад, калі пабачу
Алею, дзе пад ліпаў гул
Мне парасонкам на пяску
Штось ручкі мілыя пісалі,
Што — не скажу. Вы адгадалі,
І словы ўжо на языку.

*1913*

## ДЗЕД

Так цёпла цэлы дзень было,
Што дзед — і той сцягнуўся з печы,
Ля рэчкі сеў, дзе больш пякло,
І грэў пад старай світкай плечы.

Сінеўся бор, цякла вада,
Скрозь пахла мёдам і травою...
А дзеду нат і не шкада,
Што хутка будзе ён зямлёю.

*1913*

## СПОЎНЕНАЕ АБЯЦАННЕ

Праз радасны заліты светам бор
Праходзіць насып жоўтая чыгункі.
Як роўна рэйкі, быццам на малюнкі,
Ляглі удоўж! Як ярка семафор
Ўдалі зялёным шклом гарыць ад сонца!
Як тэлеграфныя слупы гудзяць!
Пабач — дразды на дроце іх сядзяць,
А дрот зіяе лепей ад чырвонца!
І вось, махнатай лапаю ледзь-ледзь
Ламаючы апалыя галіны,
Сюды марудна з-за кустоў маліны
Выходзіць буры малады мядзведзь.
Паветра нюхае; нядбала пазглядае
Лянівымі вачамі, быццам спіць,
У даль, пачуўшы нейкі гул, глядзіць
І ўраз, украй здзіўлёны, замірае...
Ледзь чутна рэйкі тонкія дрыжаць;
З вясёлым шумам у бары зялёным
Нясуцца за вагонамі вагоны:
Шыпіць машына, іскры зіхацяць,
Дым белы цягнецца ўгары струёю;
Ад светла сонца зіяе сталь і медзь;
З вакон смяюцца людзі... А мядзведзь
Стаіць і чуе крык мой: «Верш, за мною!»

*1913*

## У СТАРЫМ САДЗЕ

Прыгожы сад, які любіў Вато:
Між дрэў зялёных статуі паўсталі,
Вось грот, гадзіннік сонечны, а далі
Фантан... Напэўна, саду год са сто.

Стаю я, сню пра знікнуўшыя дні
І кніжку новага пісьменніка трымаю.
Яе я разгарнуў... і закрываю,
Здзіўлёны ўкрай, што гэта не Парні.

*1913*

## С. ПАЛУЯНУ

*(Трыялет)*

**Ты быў, як месяц, адзінокі:**
**Самотна жыў, самотна ўмёр.**
**Хоць свет і людны, і шырокі,—**
**Ты быў, як месяц, адзінокі.**
**Красу, і светласць, і прастор**
**Шукаў — і, ад усіх далёкі,**
**Ты быў, як месяц адзінокі:**
**Самотна жыў, самотна ўмёр.**

*1913*

* * *

Народ, Беларускі Народ!
Ты цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі,—
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшысь ад грознай бяды,
Ўвесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны: «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

*1913*

## ВАРАЖБА

Усё знікла — шум дажджу, і ветру вой сярдзіты,
Блеск сіні перуноў, за ўдарам гулкі ўдар.
Клубяцца шызыя астаткі грозных хмар,
Як у вадзе воск пчол пры варажбе наліты.
Што ж гэта варажба прароча нам і глебе?
Пабач жа,— зіхаціць блеск ясны сонца ўраз
Сярод разрыву хмар, і сямібарвны пас
Лукой прыгожай лёг ў бэзовым небе.

*1913*

## ПРОСЦЕНЬКІ ВЕРШЫК

Няяркая, маленькая вясёлка
Ўкруг месяца ледзь бачна зіхаціць;
Яе не кожны нават і прыкмеціць,
Хто ў гэты час на неба паглядзіць.
Няяркая, маленькая вясёлка! —
Праз гэта ты і даспадобы мне,
Бо я адну з табою долю маю —
Зіяць ледзь бачна ў сіняй вышыне.

*1913*

## САНЕТ

Прынадна вочы ззяюць да мяне;
Чароўна усміхаючыся, губы
Адкрылі буйныя бялеючыя зубы...
Ласкавы шэпт... Гарачай хваляй мкне

Кроў к сэрцу маяму. Мана ўсё або не?
Ці верыць мілым абяцанкам любы?
Мо гэта жар, пылаючы для згубы,
Хавае сцюжу пад сабой на дне?

Так, іншы раз, над соннаю зямлёю
Агністаю дугою залатою
Прарэжа цемень яркі метэор.

Гарыць ён, іскры сыпле і нясецца,
Бліскаючы мацней ад ясных зор,—
А ў глыбіні халодным астаецца.

*1914*

## ЭМІГРАЦКАЯ ПЕСНЯ

Ёсць на свеце такія бадзягі,
Што не вераць ні ў бога, ні ў чорта,
Ім прыемны стракатыя сцягі
Караблёў акіянскага порта.

І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на свеце не маюць.
Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць,—
Аднаго яны моцна жадаюць:

Пабываць у краях незнаёмых
Ды зазнаць там і шчасця і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.

Але мы — не таго мы шукаем,
Не таго на чужыне нам трэба.
Не рассталіся б мы з нашым краем,
Каб было дзеля нас у ім хлеба.

І на вуліцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.

*1914*

## МЯЖЫ

Кінь вокам на увесь абшар зямлі:
Вось хату шчыльна абышлі
Парканы з гострымі цвікамі,
Пасыпаныя бітым шклом,
Глядзі — ў прасторах за сялом
Мяжамі
Падзелены на нівах каласы,
Ідуць канаўкі праз лясы,
І стопудовыя гранічныя камені
Сярод лугоў бяскрайных заляглі.
Шнуры штыкоў па ўсёй зямлі
Гараць, як дзікае хаценне,
На гасударстваў рубяжы.
Глядзі: паўсюль мяжы.

Нязмерны вольныя прасторы
Святой зямлі,— а чалавек
Мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век,
Хаваўся ў іх, як ліс у норы,
І жыў пужліва сам — адзін,
Дрыжачы, як лісцё асін,
Зласлівы, бессардэчны, хцівы,
Такі здрадлівы,
Для ўсіх чужы, зусім чужы.
Вакол яго — платы, мяжы.

Пабач, што робіцца за гэтымі платамі!
Ў надмернай працы гіне тут
Галодны і абдзёрты люд,
Каторы моцнымі рукамі
Стварыў усе багацтвы на зямлі:
Правёў ён скібы на раллі,
Ён рэйкі пралажыў чыгунак,
Заводаў коміны падняў у выш нябёс,
А сам даўно сляпы ад слёз
І ўжо забыўся аб ратунак.
Глядзі: па ўсёй зямлі святой
Шырокай хваляй залатой
Без краю блішча збожжа мора,
Цвітуць лугі, шумяць лясы...
Так многа ёсць паўсюль багацтва і красы,
А людзі нішчацца у голадзе, у зморы
Ад беднаты, ад цемнаты,
Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы.

*1914*

* * *

Як Базыль у паходзе канаў,
Усё старонку сваю спамінаў.
— Вы прашчайце, прашчайце, шнуры,
Вы прашчайце, негараныя!
Мне вас болі ужо не гараць,
Буйным збожжам на зары не засяваць.
— Не пабачу я цябе, цёмны луг,
Поле чыстае, раздольнае!
Мне па вас ужо ніколі не хадзіць,
Мне зялёнай травы не касіць.
— Расстаюся я з табой, шчыры бор,
Пушча цёмная, драмучая!
Мне твой шум ужо болі не чуваць,
Мне высокіх сасон не рубаць.
— Ах, прашчай ты, сямейка мая,
Вы прашчайце, таварышы!
Ужо не прыйдзецца да сэрца прытуліць,
Пасядзець, пажартаваць, пагаманіць.
— Гэй, чалом табе, чалом, Беларусь,
Уся старонка бяздольная!
Не забыў твой сын сваёй мацi,
За цябе у зямлі яму ляжаці.—

Як Базыль у паходзе канаў,
Усё старонку сваю спамінаў.

*1915*

* * *

У мясцечку Церасцечку не званы гудзяць,
Не званы гудзяць — навіну чуваць,
Што знайшлі сёпня Япку-стральца
У зялёненькім ельнічку,
Каля белага каменю,
На цёмным імху, між брусніцаю.
Галава яго прабітая.
Ўся крывёю залітая.
Гэй, сасонка над ім шуміць,
Прамаўляе, выгаварывае:
«Не ўдаваўся бы ты, Яне, за куніцамі,
Яшчэ болей — за тымі маладзіцамі».

*1915*

## ВЕРШЫ БЕЛАРУСКАГА СКЛАДУ

*I*

### *БЯСЕДНАЯ*

А чалом, чалом, мае госцейкі,
Сабірайцеся на бяседачку,
На бяседачку ў хату новую,
Ў хату новую — сасновую,
Ды за столікі кляновыя,
За абрусікі бялёвыя,—
Ой, бялёвыя-саматканыя,
У узоры вышываныя.
Вышывала я ў сем шаўкоў,
Вышывала каршуновы суд.
Ён суды дае — перасуд бярэ:
З большых птушак — хоць па пёрыйку,
А з драбнейшых — дык і цэлы хвост.
Прыхадзіў тут мужык-верабей,
Каршуну ў ногі кланяўся,
На сініцу-цешчу жаліўся.
Не дамовіў ён скаргі свае,
Як пачаўся і трэск і грук.
Успырхнулі ўсе, злякаўшыся,
Разляцеліся, хто куды здалеў.
Каўка неяк затрымалася,
Ды і тая пахавалася,—
І узораў не асталася.

**Ды красна бяседа не узорамі,**
**А ласкавымі прыгаворамі;**
**Не ядвабнымі абрусамі,**
**А ласкавымі прымусамі.**

*1915*

*11*

* *

У Максіма на кашулі вышыты галубкі;
Я за тое вышывала, што цалуе губкі.

У Максіма на кашулі вышыты лісточкі;
Я за тое вышывала, што цалуе вочкі.

У Максіма на кашулі вышыты падкоўкі;
Я за тое вышывала, што цалуе броўкі.

*1915*

*III*

* *

**Як прыйшла я на ток малаціць —**
**У задуменні застаялася**
**Ды знянацку рассмяялася.**
**Нават сорам на хатніх зірнуць:**
**Ці не ўцямілі, хвароба на іх,**
**Ад чаго мой тварык смяецца,**
**Ад чаго маё сэрцайка б'ецца.**

*1915*

## МАКСІМ І МАГДАЛЕНА

Гэй, пайду ж я па вуліцы
Ў тое поле за аколіцу.
Ля аколіцы і плот і гарод,
Завіваецца хмялінушка.
Ды чаму ж цябе, зялёную,
Градам-дождлсыкам не выбіла?
Ты, хмялінушка вясёлая,
Раскудравая хмялінушка,
Загубіла буйну голаву,
Буйну голаву Максімаву.

Максім у карчомцы гуляе,
Ён гуляе — крыж прапівае,
Да таварышаў сваіх выгукае:
«Піва-мёд у карцы палівай,
Каб лілося аж за край, аж за край,
Песню гучную яшчэ завадзі
Ды цымбаламі падыгрывай!»

Гэй, як скрыпнуць, як утнуць гапака,—
Толькі сцены захадзілі у шынка.
Струны звонка вымаўляюць з-пад рукі,
Ёмкім дробам выбіваюць хадакі.
Іх сталёвыя падкоўкі звіняць:

Ля парога людзі добрыя стаяць,
Падпяваюць, прыгаварываюць
Ды Максіма ўсё пахваліваюць.
Ён сядзіць — не памалу п'е,
Пад цымбалы у далоні б'е,
І хмяльна жа яго галава,
Мова дзіўная так-такава:

«Магда, Магдачка,
Мая кветачка-пралесачка!
Не кахацца мне, хлопу, з табою,
Ваяводы старога дачкою.
Сёння з войтам цябе заручаюць,
Рушнікі вынімаюць,
Русу косу тваю прапіваюць.
То не траўка-павіліка расплятаецца,—
Наша вернае каханне канчаецца.
Ўжо не будзеш гуляць, як бывала,
Цалаваць, як раней цалавала,
Выхадзіць у сад апаўночы,
Глядзець непагляднаму ў вочы.
Ты марцовага снегу бялей,
Броўкі — долі сіроцкай чарней;
Не забыць іх сэрцу ніколі,
Не бачыць да веку патолі.
Лісся, піва, цячы, як вада,
Бо пала на сэрца нуда!»
У хмялю Максім гавора, не чакае гора,
Ды пачула тыя словы шынкароўна Сора.

Узяла Сора да палаца шпарка пабяжала,
Ваяводзе а прыгодзе ўсё пераказала.
Гэй, як грымне ваявода ў памост нагою:
«Налажы ж ты, ледацюга, буйнай галавою!»
Толькі ўчулі тое слугі — зараз паспяшалі,
Ланцугамі хлопу ногі закавалі,
Павялі на пляц кірмашовы,
На памост высокі сасновы.
Людзі добрыя ўкруг стаяць.
Ён ідзе-не-ідзе, супыняецца;
Белы ручанькі на баках вісяць,
Ногі борздыя вагаюцца.
Ды не жаліцца на людзей Максім,
Толькі кажа ён аб цымбалы ім,
Хоча зноў пачуць тое граннiца
У астатні раз,
У смяротны час,
На апошняе са светам развітанніца.
Вокам кінуць — цымбалы дасталі,
На памост на высокі паклалі.
Устрахнуў Максім кудрамі — годзе плакаць, годзе.
Цяжка-важка, сумнёсенька ён заводзе:

«Не вятрыска са поўначы павявае —
Ціха сон у камору ўступае,
Вочы мне стуляе, ацьмяняжае.
То не птушка ў гняздзечку ўстрапянулася —
Маё сэрца улякнулася.
Снілась мне — я узмежкам іду,

Поруч збожжа калыхаецца,
Поруч збожжа калыхаецца,
Буйнай срэбранай расой асыпаецца.
Сёння споўніўся той нядобры сон,
Сёння споўніўся цераз дзевяць дзён:
Праз цябе, дзявоцкая краса,
Слёзы коцяцца, як буйная раса».
Ціха ўсё — толькі струны звіняць,
Толькі песня разліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць,—
З болю сэрца разрываецца.
Гэй, было б табе, Максім, не кахацца,
На вяльможную дачку не заляцацца.
Устрахнуў Максім кудрамі — годзе плакаць, годзе.
Цяжка-важка, сумнёсенька ён заводзе:

«Магда, Магдачка,
Мая зоранька ясная,
Маё сонейка прэкраснае!
Ой, ад сонейка
Па зямлі цвяты расцвітаюць,
Ад яго ж яны й пасыхаюць.
А ты, сонца, свеціш,
Залатое, святое,
І не ведаеш тое».
Ціха ўсё — толькі струны звіняць,
Толькі песня разліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць,—
З болю сэрца разрываецца.

Гэй, было б табе, Максім, не кахацца,
На вяльможную дачку не заляцацца.
Устрахнуў Максім кудрамі — годзе плакаць, годзе.
Цяжка-важка, сумнёсенька ён заводзе:

«Мае дзетачкі, мае дробныя,
Вы наплачацесь, нагалосіцесь,
Бо не стане ў вас татачкі!
Хто вас будзе гадаваці, адзяваці?
І ад цёмнай ночы укрываці?
Станеце вы, дзеткі, жабракамі,
Пойдзеце барамі-лугамі
Ды гасцінцамі-дарогамі.
А дарогі тыя без канца ляжаць,—
Без канца вам, дзеткі, гора горкае цярпець».
Ціха ўсё — толькі струны звіняць,
Толькі песня разліваецца.
Людзі добрыя навакол стаяць,—
З болю сэрца разрываецца.
А як смерцю Максіма скаралі,—
Рукі белыя да брамы прыбівалі,
Рукі белыя да брамы мястовай,
Галаву — да вежы вартовай,
Каб дажджы яму кудры мачылі,
А вятры бы сушылі,
Каб крукі прылятали — вочы дзюбалі,
Усе бы людзі пазіралі — ды не забывалі.

*1915*

## ЛЯВОНІХА

Ах, Лявоніха, Лявоніха мая!
Спамяну цябе ласкавым словам я,—
Чорны пух тваіх загнутых брывянят,
Вочы яркія, вясёлы іх пагляд;
Спамяну тваю рухавую пастаць,
Спамяну, як ты умела цалаваць.

Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
Ты пяяла галасней ад салаўя,
Ты была заўсёды першай у танку —
І ў «Мяцеліцы», і ў «Юрцы», і ў «Бычку»;
А калі ты жаці станеш свой загон,
Аж дзівуецца нядбайліца Лявон.

Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
У цябе палова вёскі — кумаўя.
Знала ты, як запрасіць, пачаставаць
І дарэчы слова добрае сказаць.
І разважыць, і у смутку звесяліць,
А часамі — і да сэрца прытуліць.

Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
Дай жа бог табе даўжэйшага жыцця,

**Дай на свеце сумным радасна пражыць,**
**Ўсіх вакол, як весяліла, весяліць.**
**Хай ніколі не забуду цябе я.**
**Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!**

*1915*

## СКІРПУСЯ

Ой, пайшла сабе Скірпуся на кірмаш
Паглядзець, ці селязенькаў нямаш,—
Мо варона, мо сава,
Мо Скірпусенька ўдава.
Прадала яна каня,
Ўтаргавала селязня,
Селязенька чубаценькага,
Маладога, зухаваценькага.
Пакупіўшы селязня,
Мела клопату штодня:
Селязенька умываецца,
Сам на вулку узіраецца;
Узіраецца на вулачку,
Ці не ўбачыць тую вутачку.
Селязенька — Івашачка,
Ён цалуецца з Наташачкай.

*1915*

* * *

Маладыя гады,
Маладыя жадання!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасце кахання,

Помніш толькі красу,
Мілы тварык дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

Цёмны сад — вінаград,
Цвет бяленькі вішнёвы,—
І агністы пагляд,
І гарачыя словы.

Будзь жа, век малады,
Поўны светлымі днямі!
Пралятайце, гады,
Залатымі агнямі!

*1915*

* * *

Сцюжа, мрок... Я ізноў хвараваты.
Ў сэрцы — думак дакучных цяжар.
Заварыць бы гарачай гарбаты,
Разагрэць бы хутчэй самавар.

Запяе ён і тонка, і ціха,
Зазіяе па спод аганьком,—
І развеецца цёмнае ліха
Над маім абагрэтым кутком.

*1915*

* * *

Непагодны вечар. Сумна, дружа, мусі?
Каб разважыць смутак, ціха запяваю:
— Ой, ляцелі гусі ды з-над Белай Русі,
Скалацілі воду ціхага Дунаю.

Есць любоў на свеце, здрада і расстанне;
Шмат яшчэ чаго нам прыйдзецца зазнаці...
Ўсё мацней пяю я аб чыімсь каханні,
І тугі у спеве болей не схаваці.

*1915*

* * *

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

*1915*

* * *

Цёмнай ноччу лучына дагарала,
Я Арцёму кашулю вышывала:
Пасярэдзіне — сонейка,
Навокал зоры дробныя.
Толькі ўходзіць у хату сястрычанька,—
Белы-чысты ліст у руках,
Белы тварык увесь у слязах:
«Ой, забілі Арцёма, забілі,
У нязнанай старонцы зарылі;
Ой, забілі Арцёма шрапнеляй,
Завіруха яго крые белай беляй».
Як пачула я тое ды ўцяміла,
Мае ніткі неяк памяшаліся,
Сонца яркае скацілася,—
У вачах памуцілася.
Чаму я на свет урадзілася?

*1915*

* * *

Ты не згаснеш, ясная заранічка,
Ты яшчэ асвеціш родны край.
Беларусь мая! Краіна-бранічка!
Устань, свабодны шлях сабе шукай.

*1915*

* * *

Ўсё праходзе — і радасць, і мукі.
Але будзеш мне помніцца ты,—
Броўкі цёмныя, вузкія рукі
І галоўкі радок залаты.

*1915*

* * *

Ўжо пара мне дадому збірацца,—
Вечар позны, а час не стаіць.
А, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ухадзіць.

Там, на вуліцы, ні сівер ні бура,
Там адно толькі — мрок, самата.
Але як я маркотна, панура
Да свайго пацягнуся кута.

Думкі нудныя зноў закружацца,
Сэрца чулае зноў забаліць...
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ухадзіць.

*1915—1916*

* * *

Калі паласу агнявую
На захадзе сонца праводзе,—
Пакінуўшы вежу старую,
У сад каралеўна выходзе.

Вось чмель прагудзеў аксамітны,
Вось ярка-зялёная мушка...
І ўрэшце з краіны блакітнай
Ўлятае маленькая птушка.

Як чутна яна запявае,
Што ёсць і вясна, і каханне,
І шчасце без меры, без краю,
І першая горыч расстання.

Маркотна глядзіць каралеўна,—
Так сэрца жадае любові!
І хмурыць сурова і гнеўна
Кароль пасівеўшыя бровы.

*1916*

* * *

Ўсплывае грамада сіфонафора —
Жывых асоб жывушчая труна!
Зраслася з іх, скалечаных, яна,
Як з членаў, не жадаючых прастора.
Дзе хто яе кіруе паміж мора,
Хто — хапае здабычу ў цемні дна?
Аб раўнавазе рупіцца адна,
І ўсе жывуць без шчасця і без гора...

* * *

Выйшаў з хаты. Ціха спіць надворак.
Наплывае радасць, з ёю — сум.
Не злічыць у небе ясных зорак,
Не злічыць у сэрцы светлых дум.

Шмат зазнаў я горычы з нудою,
Што шчаміла, мучыла, пякла...
Ўсё ужо прайшло, сплыло вадою,—
Моладасць не знікла, не прайшла!

*1916*

* * *

Вы так часта пазіралі ў люстру
І ніколі — да мяне у вочы,
Дзе Вы таксама адбіваецеся
У чорных бліскучых зрэнках —
Гэтых дробненькіх круглых люстэрках.
Але згіне з люстры Ваш вобраз
І следу не кіне;
А ў маёй душы
Яму ўжо не згінуць.

* * *

Буду сніць і днямі і начамі.
І прыйду. Што ўздумаеш, рабі.
Хочаш — душу растапчы нагамі,
Хочаш — мучай, хочаш — загубі.

## СТРАЦІМ-ЛЕБЕДЗЬ

Не анёл у трубу угрубіў —
З хмары бог старому Ною гаварыў:
«Поўна з краем чаша гневу майго
На людскія грахі ды бясчыпнасці.
Вось надойдзе часіна суворая,
Лінуць з неба залівы бязмерныя
І абмыюць ад бруду смуроднага
Ўсю зямлю яны, белы-вольны свет».

Пачынаў тут Ной будаваць каўчэг
З таго дзерава ліванскага.
Ўшыркі гэтаму каўчэгу — сто лакцёў,
А ўдаўжкі — болей тысячы.
Ды узяў туды Ной і птах і звяроў,
Каб не звёўся іх род з зямлі.
Ды не плыў к яму з мора сіняга
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Яго звычаі — арліныя,
Яго ўцехі — сакаліныя;
Пер'і-пер'ечкі бялеюцца
Ды на золаку агнявеюцца.
У яго ў крыле — трыста тры пяры:
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — што мяцель гудзіць.

Як учнуць дажджы — пацякла вада,
Разлілася горш ад навадкі.
Затапіла ўсе лугі-лагі.
Усе лугі-лагі, ўсе лясы-бары;
Уздымаецца вышэй ад гор.
Птахі ў небе стаяй лётаюць,
Енчаць жаласна, ад нуды крычаць,
Выглядаюць стуль прытулачку.
А па ўсёй зямлі толькі хвалі б'юць,
Толькі хвалі б'юць белай пенаю.
Ды па іх дужы, смелы плавае
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — як мяцель гудзіць.
І паселі тут на лебедзя
Птахі дробныя ўсёй стаяю.
Лебедзь з сілы выбіваецца,
Птушкі ажна усцяшаюцца.

Дзень ён плавае, другі, трэці дзень,
На чацвёрты стаў прасіць-маліць:
«Вы ўзляціце хоць на час які,
Выбіваюся з астатніх сіл.
Дайце вы грудзям, гэй, вальней ўздыхнуць!
Дайце вы крылам, гэй, шырэй ўзмахнуць!»
Не паслухалі птахі лебедзя.
Пацямнела у яго ў вачах,
Крыллі ўрэшце надламаліся,
Галава ў ваду апусцілася.

І пайшоў на дно мора сіняга
Страцім-лебедзь — моцны, горды птах.

Ад усіх цяпер патомкі ёсць,
Ды няма адных — Страцімавых.

*1916*

## ПАГОНЯ

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,—
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,—
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

**Маці родная, Маці-Краіна!**
**Не усцішыцца гэтакі боль...**
**Ты прабач, Ты прымі свайго сына,**
**За Цябе яму ўмерці дазволь!..**

**Усё лятуць і лятуць тыя коні,**
**Срэбнай збруяй далёка грымяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.**

*1916*

* * *

Набягае яно
Вечарамі, начамі,
Адчыняе акно
І шамрэе кустамі.

І гавора адну
Старадаўнюю казку —
Аб любоў і вясну
І жаночую ласку.

Сэрца сніць аб красу —
Аб слядочак дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

Як забудуся сном
У сіняватыя ночы,—
Прылятаеш ты ў дом,
Пазіраеш у вочы...

*1916*

* * *

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколькі ў хмарках залётных агня...

## CREDO

Есць адна толькі мудрасць жыцця і яе я шаную;
Вось што кажа яна:
Калі хочаш праўдзіва ты жыць, дык пей чару любую,
Але толькі да дна.

* * *

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

*1917*

ЗМЕСТ

Максим Адамович Богданович. Избранное. На белорусском языке.

Рэдактар А. М. Бачыла. Франтыспіс М. М. Купавы. Афармленне В. С. Юрчанкі. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. Р. Законнікава.

ИБ № 62

АТ 21167. Здадзена ў набор 10/VI 1976 г. Падп. да друку 8/IX 1976 г. Тыраж 25 000 экз. Фармат $60 \times 90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 6. Ул.-выд. арк. 4,11. Зак. 3336. Цана 26 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Багдановіч М.**

Б 14 Выбранае. Мн., «Маст. літ.»
1977

192 с. з іл. (Б-ка беларускай паэзіі).

Паэзія Максіма Багдановіча вызначаецца высокім грамадзянскім пафасам, глыбокім роздумам аб жыцці і каханні, непасрэднасцю і шчырасцю пачуццяў.

У кнізе сабраны лепшыя творы паэта.

Б $\frac{70403\text{-}018}{М302(05)\text{-}77}$ 109-77 Бел 1